





*Мал. 4. План і знаходкі з раннесярэднявечнага слоя селішча ля Чырвонага моста:*
*1 - план селішча з пазначэннем месца раскопу 1979-1980 гг. (паводле Г.В. Штыхава),*
*2-4 - наканечнікі стрэл, 5 - фрагмент бронзавага бранзалета, 6-7 - фрагменты тыгляў,*
*8 - глінянае праселка (2-8 -малюнкі М.А. Плавінскага)*




*Мал. 5. Ляпная кераміка з сепішча ля Чырвонага моста (малюнкі М.А. Плавінскага)*




*Мал. 6. Ляпная кераміка з селішча пя Чырвонага моста (1-5a, 6-13 - малюнкі М.А. Плавінскага, 5b - паводле Г.В. Штыхава)*




Мал. 7. План і ляпная кераміка з Ніжняга замку (паводле С.В. Тарасава)




1




2

*Мал. 8. Запалоцце: 1 - план Запалоцця паводле С.В. Тарасова, lа - фрагмент ляпной керамікі з раскопу 1986 г. (паводле С.В. Тарасава), 2 - план Запалоцця паводле Д.У. Дука*



1




2

*Мал. 9. Прамалёўка з плана С. Пахалавіцкага «аблога Полацка каралём Стэфанам Баторыем у 1579 г.» (1) і рэканструкцыя мяркуемай тапаграфіі курганнага некропаля раннесярэднявечнага Полацка паводле Д.У. Дука і М.А. Плавінскага (2)*




*Мал. 10. Знаходкі з мяркуемага «Усходняга курганнага могільніка»: 1-3 - меч тыпу V, 4 - ляпны гаршчок, 5 - ляпны гаршчок з падпраўленым на ганчарным крузе венцам (1 - паводле Г.В. Штыхава, 2-3 - паводле А.М. Кірпічнікава, 4-5 - малюнкі М.А. Плавінскага)*




*Мал. 11. Тэрыторыя Полацка ў першай палове X ст.: 1 - Першапачатковае гарадзішча, 2 - селішча ля Чырвонага моста, 3 - Ніжні замак, 4 - Запалоцце, 5 - «Паўночны курганны могільнік», 6 - «Усходні курганны могільнік» (рэканструкцыя М.А. Плавінскага); а - участкі тэрыторыі, дзе зафіксаваны культурны слой з ляпной керамікай, b - участкі тэрыторыі, дзе мяркуецца існаванне культурнага слоя з ляпной керамікай, с - тэрыторыя мяркуемага курганнага некропаля*

*Георгій Штыхаў*

# АРХЕАЛАГІЧНЫ КОМПЛЕКС ІЗБІШЧА-ДЗВІНАСА НА ЛАГОЙШЧЫНЕ

**Паселішча на Дзвінасе.** Ізбішчанскі археалагічны комплекс - крайні ўсходні пункт Беларускага Павілля, тэрыторыі, якая абмежавана вадазборам ракі Віліі ў межах Беларусі. Павілле - адзін з добра даследаваных у археалагічных адносінах рэгіёнаў Беларусі. У 70-80-я гады XX ст. значныя археалагічныя даследаванні тут праводзіў Я.Г. Звяруга (Звяруга, 2005, с. 167).

Пры абследаванні берагоў Дзвінасы ў 1985 г. М.М. Чарняўскі адкрыў селішча за 2 км на паўднёвы захад ад вёскі Ізбішча (цэнтр сельсавета), ва ўрочышчы Калыскаўка, на першай надпойменнай тэрасе правага берага ракі. У сувязі з запраектаваным стварэннем вадасховішча на рацэ Дзвінаса ў Лагойскім раёне Мінскай вобласці тэрыторыя, дзе размяшчаецца селішча і курганны могільнік, павінна была залівацца вадой. Помнік даследавалі ў 1987-1989 гг. В.У. Казей, а ў 1990-1991 гг. - аўтар гэтых радкоў (Штыхаў, 1997, с 67, 70).

Селішча перасякае гравійная дарога, якая вядзе з вёскі Ізбішча ў вёску Выгар. Культурныя напластаванні займаюць плошчу прыкладна 24 тыс. кв.м. Яна была вызначана паводле пад'ёмнага матэрыялу ў час вясенняга ворыва. Даўжыня участка - 300 м, шырыня ад 70 да 130 м. Раскопкі пачаў у 1987 г. В.У. Казей. На селішчы былі закладзены тры шурфы. У шурфе 1 выяўлена кераміка XVII1-XIX стст. У шурфе 2 культурны слой парушаны да мацерыковага грунта. У шурфе 3 (4x4 м) сярэдняя таўшчыня напластаванняў складала 0,4 м. Раскопкі вяліся пластамі таўшчынёй 20 см. Культурныя адклады мелі чорна-карычневы колер. У першым пласце была кераміка XVII-XIX стст., у другім - знойдзены фрагменты раннекругавых пасудзін X-XI стст. Мацерыковы грунт уяўляў сабой пясок жоўтага колеру. Шурф быў пашыраны да больш значных памераў - 204 кв.м і абазначаны раскопам 1. Сярэдняя таўшчыня культурных напластаванняў 0,3-0,4 м без уліку шматлікіх ямаў у мацерыку (мал. 1).

Знойдзена кераміка ляпная і кругавая. Ляпной - 224 фрагменты (45 венчыкаў, 11 донцаў, 168 сценак ад гаршкоў). Абломкаў кругавой керамікі - 1382. Ад ляпных пасудзін былі фрагменты гаршкоў культуры штрыхаванай керамікі і керамікі, пакрытай расчосамі, другой чвэрці I тыс. н.э. На мацерыковым грунце знойдзены буйны фрагмент верхняй часткі рабрыстай пасудзіны з шурпатай («аблітой») паверхняй (мал. 2:1). Аналогіі такіх пасудзін выяўлены ў Літве, дзе яны датуюцца III—V стст. (вызначэнне ляпной керамікі зрабіў А.М. Мядзведзеў).

У грунце зафіксавана 121 яма круглай ці акруглай формы, многія маюць міскападобнае дно. Папярочнік ямаў 0,4-0,5 м, глыбіня 0,2-0,3 м. Прысутнічаюць ямы большых памераў і глыбіні. Іх запаўненне мае чорны колер. Мусіць, гэта ямы гаспадарчага прызначэння, але яны пазбаўлены знаходак. Толькі ў асобных выпадках выяўлены невялікія фрагменты керамікі. Напрыклад, у яме 45 знойдзена 5 фрагментаў сценак ляпных пасудзін, 3 фрагменты кругавых гаршкоў. У яме 51 акруглай формы (1,2x1,4 м), запоўненай чорным слоем, было 12 фрагментаў ляпной керамікі з расчосамі.

Можна меркаваць, што ў гэтых ямах члены асобных сем'яў захоўвалі свой скарб. Большасць ямаў у старажытнасці маглі быць даверху напоўнены коранеплодамі, ад якіх да нашага часу не захавалася ніякіх рэштак. Мусіць, у іх хавалі рэпу, вядомую ва Усходняй Еўропе з вельмі старажытных часоў.

Яма 79 мае авальную форму памерам 1,2х05 м, глыбіню 0,2 м. Знойдзены ікол дзікага кабана, магчыма, тут захоўвалася мяса вепра. Шэраг ямаў дыяметрам да 0,3 м маглі застацца ад слупоў. Намер выявіць па іх размяшчэнню форму і памеры пабудоў поспеху не меў.

Яма 102 памерам 1,8х0,8 м, глыбінёю 0,25 м мае дно міскападобнай формы, запоўнена чорным слоем. Яма 110 у раскоп трапіла часткова. Яе памеры 2,8х0,6, глыбіня 0,5 м. На дне была знойдзена шкляная пацерка-пранізка фіялетавага колеру. У яме 119 памерам 1,6х0,9 м, глыбінёю 0,6 м знойдзены 3 фрагменты ляпной керамікі, 2 кругавога посуду. Яма 120 мае падоўжаную форму, авальнае дно (0,5х0,3 м) і глыбіню 0,35 м. У пласце чорнага колеру выяўлена костка хатняга быка. Відаць, у яме захоўваліся мясапрадукты.

У верхнім пласце культурнага слоя знойдзены невялікае бронзавае кольца, металічны наканечнік пояса, упрыгожанага трыма шматпялёсткавымі разеткамі ў зігзагападобным узоры, які прымацоўваўся да канцавой часткі рэме-ня двума шпянькамі, позналатэнская фібула (мал. 3:2), жалезная пласціна ў форме трохвугольніка, частка глінянай ліцейнай формы (мал. 3:11), шкляная зонная пацерка. У ніжнім пласце выяўлены бронзавы пінцэт (мал. 3:7), фрагмент змеегаловага бронзавага бранзалета, жалезны шылападобны прадмет (мал. 3:3). На мацерыку быў кавалак крэменю. У розных месцах знойдзена 42 кавалкі жалезнага шлаку.

У 1988 г. зроблена прырэзка да раскопа, абазначаная як раскоп II плошчай 84 кв.м. Сярэдняя таўшчыня культурнага слоя 0,4 м. Выяўлена 50 ям невялікіх памераў, верагодна, ад закапаных слупоў. Некалькі паглыбленняў мелі больш значныя памеры, напэўна, ад ям гаспадарчага прызначэння (мал. 4).

Невялікі раскоп III размешчаны за 40 м на паўднёвы захад ад раскопа I. Яго памеры 4х6 м, таўшчыня напластаванняў 0,5 м. На мацярыку выяўлены ямы авальнай ці падобнай да яе формы. Глыбіня ям ад 0,2 да 0,4 м. Яма 4 авальнай формы мае памер 2х2,5 м, глыбіню 0,4 м. У культурных адкладах раскопа знойдзена некалькі крамянёў (2 пласціны, 4 адшчэпы). Па вызначэнню В.П. Ксяндзова, яны адносяцца да эпохі неаліту, або бронзы. Знойдзена некалькі дзесяткаў фрагментаў штрыхаванай керамікі, па аднаму фрагменту аблітой і глянцаванай керамікі, невялікія рэшткі пасудзін, зробленых на ганчарным крузе. Выяўлены два гліняныя праселкі, буйная шкляная пацерка «ў вочкі» X-XI стст., частка жалезнага сярпа з патоўшчанай спінкай, частка крэсіва (мал. 5:27), рукаятка нажа і адзіны фрагмент кафлі з зялёнай палівай XVI ст.

У 1989 г. быў распрацаваны раскоп IV. Ён размяшчаўся побач з двума раскопамі 1987 і 1988 гг. (мал. 1). Магутнасць культурных адкладаў была ў сярэднім 0,5 м. Плошча раскопа 240 кв.м (12х20 м). У 1990 г. ён быў пашыраны на 98 кв.м. У агульным раскопе зафіксавана звыш 500 ямаў у грунце. Большасць ям была малых памераў, дыяметрам 0,2-0,3 м. Толькі адна яма мела памеры 2х2,5 м. Прыкмет паглыбленых у зямлю пабудоў не выяўлена. Пры раскопках зафіксавана некалькі соцень невялікіх круглых ямаў для слупоў. Аднак спробы вызначыць канфігурацыі, якія адпавядаюць прамавугольным ці квадратным жытлам, нельга лічыць удалымі. Зробленыя ў 1990 г. прырэзкі для чацвёртага раскопа не дапамаглі высветліць пытанне аб форме і памерах жытлаў. Ва ўсім раскопе IV выяўлены рэшткі 10 печаў. У культурным пласце яны ўяўляюць груды камянёў. Печы-каменкі мелі памеры 1-1,5 м у папярочніку.

Рэшткі даследаванай печы ўзвышаліся над узроўнем грунта на 40-45 см. У цэнтральнай частцы знаходзіліся буйныя валуны 0,5 м і дробныя камяні памерам 5 см. Дробныя камяні былі па перыметру печы. Тут знойдзена ляпная і кругавая кераміка. У некаторых месцах існавалі адкрытыя агмені. У якасці чарэня насыпаўся пясок. У плане агмені былі круглыя ці авальныя.

У культурным пласце раскопа IV знойдзены два гліняныя праселкі для верацён (мал. 5:13, 14). Яны маюць адносна вялікую адтуліну і біканічную форму. Вышыня вырабаў ад 1 да 1,3 см. Такія праселкі датуюцца трэцяй чвэрцю I тыс. н.э.

Адно праселка - каменнае (шыфернае) канца X-XII ст. (мал. 5:18). Арнаментаваная шырокарогая лунніца з вушкам для падвешвання (мал. 5:23) мае шмат аналогій і датуецца X - пачаткам XI ст. Выяўлены фрагмент бразготкі з крыжападобнай прарэзінай і, верагодна, невялікі гузік (мал. 5:1, 9), шкляная пацерка, срэбны злітак у выглядзе палачкі даўжынёй 6,3 см, шырынёй 0,9 см, вагой 19,7 г (мал. 5:15). Некаторыя вырабы зроблены з жалеза.

У раскопе IV знойдзена ляпной керамікі 119 фрагментаў, кругавой - 1609. Сярод ляпной гладкасценнай керамікі ёсць фрагменты тонкасценных гаршкоў (мал. 6:6, 7, 10, 11) і тоўстасценных (мал. 6:1-3, 4, 9, 14). Кругавая кераміка даволі разнастайная, розных перыядаў. Ёсць пасудзіны з карнізікам (манжэтай) у верхняй частцы, што дазваляе датаваць вырабы XI стагоддзем (мал. 7).

Матэрыялы, атрыманыя пры археалагічных раскопках на беразе Дзвінасы, з улікам дадзеных беларускай археалагічнай навукі пра матэрыяльную культуру насельніцтва тэрыторыі Лагойскага раёна і Мінскай вобласці ў глыбокай старажытнасці, дазваляюць у агульных рысах выказаць меркаванне па некаторых пытаннях засялення басейна Дзвінасы.

На месцы, дзе праводзіліся раскопкі, не існавала сталага паселішча люд-зей каменнага веку. Стаянка эпох неаліту і бронзы вядома на тэрыторыі Лагойскага раёна каля вёскі Зацэнне ў 20 кіламетрах на паўднёвы захад ад вёскі Ізбішча (Чарняўскі, 1996). Мусіць, сталае паселішча на правым беразе Дзвінасы было заснавана носьбітамі культуры штрыхаванай керамікі. А.Р. Мітрафанаў вылучыў тры храналагічныя этапы гэтай культуры: 1 - ранні (VII-V стст. да н.э.); 2 - сярэдні (IV-I стст. да н.э.); 3 - позні (I-V стст. н.э.). На першым этапе насельніцтва жыло на адкрытых паселішчах. Яны размяшчаліся на ўзвышшах у поплавах рэк, на мысападобных выступах першай надпоплаўнай тэра-сы і амаль не адрозніваліся ад стаянак перыяду позняй бронзы. Адкрытыя паселішчы для сярэдняга і позняга этапаў культуры штрыхаванай керамікі не характэрны. У абароненых прыродай мясцінах, дзе былі прыдатныя для апрацоўкі ўчасткі і паша для жывёлы, узнікалі гарадзішчы (Мітрафанаў, 1993, с 660). Будаваліся невялікія чатырохвугольныя наземныя жытлы слупавай канструкцыі з агнішчамі ўнутры, што пацвярджае распад патрыярхальна-родавых адносін.

У вывучэнне культуры штрыхаванай керамікі істотны уклад унёс А.М. Мядзведзеў. Ён прапанаваў шэраг удакладненняў у храналогію і перыядыза-цыю культуры (Мядзведзеў, 1996, с 61-64).

Гарадзішча каля вусця Дзвінасы не выяўлена. Мусіць, паселішча на беразе Дзвінасы ўзнікла ў ранні перыяд існавання культуры штрыхаванай керамікі.

Не абмінулі ніжняга цячэння Дзвінасы плямёны носьбітаў кіеўскай культуры, што датуецца III—V стст. н.э. У гэтыя часы ўжывалася кераміка з «расчосамі» (Штыхаў, 1999, с. 381). На беразе Дзвінасы існавала вялікае па плошчы паселішча другой чвэрці I тысячагоддзя нашай эры. Кераміка з расчосамі знойдзена такса-ма на прасторы, дзе пазней размясціўся Ізбішчанскі курганны могільнік. Варта адзначыць, што ляпная кераміка з расчосамі знойдзена на шматлікіх селішчах на Беларусі (Поболь, 1983, с. 392-393). Л.Д. Побаль папярэдне датаваў расчэса-ную кераміку II-V стст. (Побаль, 1983, с. 395). Кіеўскую культуру (на тэрыторыі Беларусі помнікі тыпу Адаменкі) большасць даследчыкаў адносяць да славян і толькі некаторыя - да балтаў.

У 1990 г. у прырэзцы да раскопа IV была знойдзена бронзавая дротавая фібула рымскага часу (мал. 3:1). Паводле вызначэння Л.Д. Побаля, гэта тып фібулы з падвязанай ножкай II - пачатку III ст. н.э. (вуснае паведамленне Л.Д. Побаля). У 1988 г. пры раскопках В.В. Казея знойдзена познерымская фібула (мал. 3:2), якую даследчыкі адносяць да 330-430 гг. н.э. (Медведев, 1996, с. 28). Прыведзеныя артэфакты даюць больш вузкія даты існавання паселішча на Дзвінасе ў часы Вялікага перасялення народаў у Еўропе.

На паселішчы знойдзены абломкі ляпной керамікі банцараўскай культуры. Час існавання банцараўскай культуры вызначаецца V-VIII стст. Выказваюц-ца меркаванні, паводле якіх помнікі ранняга сярэднявеча ў сярэдняй і паўночнай Беларусі сфармаваліся на аснове культур штрыхаванай керамікі і днепра-дзвінскай, пры ўдзеле элементаў кіеўскай культуры (або помнікаў тыпу Адаменкі). Роднаснай банцараўскай культуры была тушамлінская культура на Смаленшчыне. Некаторыя даследчыкі лічаць гэтыя культуры балцкімі. Верагодна, у гэты час славяне рассяляліся на землях балцкіх плямён. Мусіць, у фарміраванні банцараўскай культуры ўдзельнічалі таксама славянскія плямёны. Яны з'явіліся на тэрыторыі, дзе раней жылі балты, і адбывалася ўзаемная асіміляцыя плямён. Пры далейшым рассяленні славяне засялілі Верхняе Падняпроўе і Падзвінне (Штыхаў, 2000, с. 125-127).

Вывучэнню этнагенетычных працэсаў у Беларускім Павіллі дапамагаюць даныя раскопак Ізбішчанскага курганнага могільніка. Яго мяркуемая агульная дата - ад сярэдзіны X ст. да пачатку XII ст.

**Курганны могільнік Ізбішча.** Курганны могільнік цягнецца паласой (400х80 м) паралельна селішчу. Ён налічваў не менш за 120 насыпаў, з якіх 4 падоўжаных, астатнія ў плане круглыя ці акруглыя. Вышыня насыпаў ад 0,3 да 2,5 м. Самы вялікі курган мае вышыню 3,5 м, дыяметр 20 м. Многія насыпы апаясвалі раўкі глыбінёй 0,4-0,6 м. Ахоўныя раскопкі праводзіліся ў сувязі з будаўніцтвам тэхнічнага вадасховішча ў 1987-1991 гг. (В.В. Казей, Г.В. Штыхаў). Даследавана 114 курганоў. Абрад пахавання: крэмацый 12 (10 %), інгумацый 85 (76 %). Курганоў без пахаванняў, магчыма, кенатафаў 17 (каля 14 %). Курганы насыпаны з пяску, маюць кальцавыя раўкі. У насыпах на розных узроўнях сустракаецца шмат камянёў, размешчаных бессістэмна (мусіць, з'яўляліся рытуальным элементам).

Выяўлены крэмацыі, якія рабіліся на месцы ўзвядзення кургана, а таксама трупаспаленні па-за курганом. Адзінкавыя курганы з крэмацыямі размешча-ны ў курганным могільніку рэдкім ланцугом, таксама як і нямногія курганы з бірытуальнымі пахаваннямі (мал. 1:2, 3). Курган 32 з крэмацыяй і архаічнай керамікай вылучаецца ў заходняй частцы могільніка вялікімі памерамі (вышыня 2,6 м).

Сярод інгумацый зафіксавана шэсць відаў пахавальнага абраду:

- ***Від** 1* - на гарызонце паліўся агонь, на застылае вогнішча клаўся нябожчык і насыпаўся курган (59 разоў);

- ***Від** 2* - на невысокай падсыпцы паліўся рытуальны агонь. На вугальна-попельны праслой клаўся нябожчык. Затым насыпаўся курган (9 разоў);

- ***Від** 3* - нябожчык змяшчаўся на гарызонце, прысыпаўся пяском. Затым паліўся агонь (3 разы);

- ***Від** 4* - выпальваўся гарызонт, затым на застылае вогнішча клалі нябожчыка, яго прысыпалі зямлёй і зноў палілі агонь, «грэлі» нябожчыка (1 раз);

- ***Від** 5* - выпальваўся гарызонт, затым выкопвалася пахавальная яма, у якую змяшчалі памерлага і насыпалі курган (3 разы);

- ***Від** 6* - на гарызонце выкопвалася яма, у яе змяшчалі нябожчыка. Засыпалі яму пяском (зямлёй). Затым палілі агонь (20 разоў).

Асноўнымі відамі пахавальнага абраду ў Ізбішчанскім могільніку былі першы і шосты (мал. 8).

Несумненную цікавасць выклікае арыенціроўка нябожчыкаў (змяшчэнне галавой) па напрамках свету. Нябожчыкі, якія ляжалі галавой на захад - 24 разы, на захад з адхіленнем на поўнач - 5 разоў, на захад з адхіленнем на поўдзень - 1 раз. Нябожчыкі, якія ляжалі галавой на ўсход - толькі 2 разы. Нябожчыкі, якія ляжалі галавой на поўнач - 23 разы, у тым ліку 10 раз у курганных ямах (мал. 9). Галавой на поўнач з адхіленнем на захад - 15 раз, на поўнач з адхіленнем на ўсход - 4 разы. У Ізбішчанскім могільніку мерыдыянальная арыенціроўка, якая лічыцца фінавугорскай, пераважала над арыенціроўкай заходняй, характэрнай для славян.

У Ізбішчанскім курганным могільніку палажэнне рук памерлых дакладна выяўлена ў 37 курганах. Нябожчыкаў, у якіх абедзве рукі выцягнуты ўздоўж цела - 11 раз. Дзве рукі ляжаць на жываце ці на касцях таза - 6 раз. Толькі ў адным кургане 30, дзе пахаваны воін з паўночнай арыенціроўкай у падкурганнай яме, рукі скрыжаваны на грудзях па хрысціянскаму звычаю. Ва ўсіх астатніх курганах палажэнне рук такое: адна рука (правая ці левая) выцягнутая, другая ляжыць на жываце.

Пяць курганоў можна аднесці да бірытуальных з двума абрадамі пахавання: трупаспаленнем і трупапакладаннем. Напрыклад, у кургане 55 быў пахаваны мужчына па абраду крэмацыі, другое пахаванне - жаночае па абраду інгумацыі. Надзейнай будзе выснова, што Ізбішчанскі курганны могільнік адлюстроўвае завяршальны перыяд пераходу ад абраду трупаспалення да абраду трупапакладання.

У курганах Ізбішчанскага могільніка знойдзена вялікая колькасць прадметаў пахавальнага інвентару. Гэта ўпрыгажэнні - скроневыя кольцы, шыйныя грыўны, бранзалеты, пярсцёнкі, падвескі, падковападобныя фібулы, бразготкі. Шкляных пацерак знойдзена каля 7 тысяч.

Прадметы ўзбраення - сякеры, наканечнікі коп'яў, дроцікаў і стрэл.

Прыклады працы і рэчы бытавога прызначэння - сярпы, каса-гарбуша, скобля, цяслы, нажы, праселкі, крэсівы, асялкі, грабяні.

Да гандлёвага імпарту адносяцца манеты - дырхамы, дэнарыі, міліярысіі (Штыхаў, 1992, с 84).

Прадметы адзення - паясныя наборы (мал. 12:9, 10), спражкі, паясныя кольцы, гузікі, фрагменты тканіны.

Вельмі каштоўную калекцыю ўяўляе кераміка. Яна налічвае 84 пасудзіны, з якіх звыш 50 захавалася цалкам.

Скроневыя кольцы лічацца этнічна вызначальнымі для ўсходніх славян. У 37 курганах Ізбішчанскага могільніка знойдзены скроневыя кольцы некалькіх тыпаў. 22 разы былі скроневыя бранзалетападобныя кольцы, што складае 59,4 % ад агульнай колькасці курганоў, у якіх быў выяўлены гэты тып упрыгажэнняў. У кургане 99 такіх кольцаў з завязанымі канцамі было 4 і яшчэ 9 металічных упрыгажэнняў (мал. 10), больш за 300 шкляных пацерак, адна буйная сердалікавая і падвеска са срэбнага дырхама (Саманіды, Наср Ібн Ахмад, 914-943 гг.) Так выглядаў камплект упрыгажэнняў жанчыны сярэдняга дастатку.

Падобны комплекс упрыгажэнняў выяўлены ў кургане 43 канца X - пачат-ку XI ст. (Штыхаў, 1992, с. 71, мал. 46). Найбольш багаты набор упрыгажэнняў знойдзены ў кургане 26. Тут былі срэбныя бранзалетападобныя кольцы, дзевяць срэбных падвесак, з якіх адна скандынаўская - з выявай драпежнага звера, выканана ў стылі «Барэ» (мал. 12:2). У якасці падвесак выкарыстаны куфіцкія дырхамы, візантыйскія міліярысіі, заходнееўрапейскія дэнарыі (Штыхаў, Казей, 1993, с 282).

У Ізбішчанскім курганным могільніку знойдзена 20 шыйных грыўнаў. Грыўны, вітыя з трох драцін, маюць петлепадобныя канцы (мал. 10:3). У некаторых

выпадках канцы аздоблены 14-граннымі галоўкамі (мал. 11:1). Шэсць грывен жалезна-бронзавыя (жалезны стрыжань абкручаны бронзавай стужкай). Асабліва папулярнымі ўпрыгожаннямі ў жыхароў паселішча на Дзвінасе былі металічныя бранзалеты (мал. 10:11-13). У 34 пахаваннях іх знойдзена 58. У шэрагу пахаванняў было па два бранзалеты, а ў некаторых - па 3,4, 5 бранзалетаў з каляровых металаў. Пярсцёнкі знойдзены ў 24 пахаваннях, іх усяго 36 экз. Звычайна ў адным пахаванні - адзін пярсцёнак. Толькі ў кургане 54 было 5 пярсцёнкаў (два на правай руцэ, тры - на левай). У багатым пахаванні 26 было два сярэбраныя пярсцёнкі - адзін на правай руцэ, другі - на левай (мал. 12:1, 3).

У Ізбішчанскім могільніку падковападобныя фібулы знойдзены ў 24 курганах - у кожным па аднаму экземпляру. Усе яны выяўлены ў мужчынскіх пахаваннях, за выключэннем двух курганоў 43 і 71, у якіх пахаваны жанчыны. У 16 курганах Ізбішчанскага могільніка выяўлена 80 грушападобных бразготак з крыжападобнай прораззю і косай насечкай у ніжняй частцы (мал. 11:8). У шэрагу пахаванняў былі асобныя бразготкі. Але ў кургане 43 іх знойдзена 22, у кургане 5 - 14, у кургане 19 - 12 бразготак. Датуюцца такія бразготкі канцом X - пачаткам XII ст. (Мальм, Фехнер, 1967, с. 136).

У мужчынскіх і жаночых пахаваннях былі гліняныя пасудзіны - гаршкі малых і сярэдніх памераў, у некаторых выпадках з прыкметамі іх выкарыстання ў побыце, пра што сведчыць нагар. Пасудзіны былі ў 75 курганах, дзе яны выяўлены 84 разы. Каля 70 экземпляраў прыдатны для тыпалагічнага аналізу.

Больш за палову гаршкоў захаваліся цалкам. Выяўлена шмат кавалкаў гаршкоў спецыяльна разбітых і нават раскіданых у насыпе кургана. Некаторыя ляпныя пасудзіны выконвалі ролю пахавальных урнаў. Кругавыя пасудзіны змяшчаліся пры трупапакладаннях, магчыма з вадой, ежай ці мелі іншае рытуальнае прызначэнне.

Разнастайнымі былі месцы размяшчэння пасудзін пры інгумацыях. Гаршчок быў кінуты ў пахаванне - 11 разоў, знаходзіўся каля галавы - 8 разоў, каля грудзей - 5 разоў, каля таза ці пояса - 13 разоў, каля ног ці сцягна - 18 разоў. Лічыцца, што размяшчэнне гаршка каля галавы ўзыходзіць да балцкай традыцыі.

Паглядзім больш пільна, што ўяўляла сабой кераміка Ізбішчанскага курганнага могільніка. Уся яна, паводле тэхнікі вырабу і суадносін элементаў верхняй часткі (венчык, шыйка, плечукі) падзяляецца на пяць асноўных груп.

1. Кераміка ляпная, зробленая ад рукі без ганчарнага крута з дамешкамі буйназярністай жарствы, венчык пачатковы, не абточаны. Пасудзіна рабілася на цвёрдай падстаўцы (мал. 14:1). Прыкладная дата - сярэдзіна X ст.

2. Паўляпная кераміка, падпраўленая на прымітыўным крузе, венчык падраўняны, цеста грубае з дамешкамі жарствы і пяску. Параметры пасудзін блізкія да пасудзін першай трупы (мал. 14:2). Дата - рубеж X - XI стст.

3. Кераміка кругавая з простым S-падобным венчыкам, прама ці коса зрэзаным (мал. 14:6). Дата - канец X - першая палова XI ст.

4. Кругавая кераміка з венчыкам, які мае так званы карнізік (манжэту) (мал. 13:5,6). Дата-XI ст.

5. Кругавая кераміка з павернутым ці загнутым усярэдзіну венчыкам - прыстасаваным для накрыўкі (мал. 15:5). Дата - XII ст.

Знойдзены адзінкавыя экземпляры пасудзін з вертикальным горлам (мал. 15:4). Дата-XI ст.

Даследчыкі доўга шукалі адказу, калі ва ўсходніх славян з'явіўся і атрымаў распаўсюджанне ганчарны круг. В.В. Сядоў, абагульняючы матэрыялы з раскопак курганоў, заключыў, што «ляпны посуд ужываўся ва ўсходніх славян да X ст.

уключна, а на ўскраінах іх тэрыторыі сустракаецца яшчэ ў пачатку XI ст.» (Седов, 1982, с. 242). Такое датаванне прыдатна да ранняй керамікі Ізбішчанскага курганнага могільніка. У кургане 26 была місападобная ляпная пасудзіна, падпраўленая на падстаўцы ці на ганчарным крузе (мал. 13:1). Пасудзіна выкарыстоўвалася ў побыце. У пахаванні знойдзена 8 падвесак, зробленых з сярэбраных манет. Старэйшая манета - дырхам (907-914 гг.), малодшая - заходнееўрапейскі дэнарый (983-1002 гг.). Датаванне гэтага пахавання ў падкурганнай яме можа быць вызначана канцом X ці пачаткам XI ст.

Паўляпная пасудзіна, падпраўленая на ганчарным крузе, выяўлена ў кургане 99 (мал. 13:2). Тут была падвеска, зробленая з дырхама Саманідаў (914-943 гг.). Дата пахавання - другая палова ці канец X ст., але не выключаецца пачатак XI ст.

У кургане 69 было тры пасудзіны, архаічных з выгляду, з вялікай колькасцю жарствы ў гліняным цесце (мал. 14:1-3). Гаршкі - падобныя на кераміку культуры смаленска-полацкіх доўгіх курганоў. Пасудзіны зроблены на падстаўцы ці папраўлены на ганчарным крузе.

У кургане 43 таксама тры пасудзіны (мал. 14:4-6). Два гаршкі гладкасценныя (мал. 14:4, 5), відаць, паўляпныя, трэці гаршчок мае лінейны арнамент і зроблены на крузе (мал. 14:6). Гэты факт сведчыць аб суіснаванні паўляпнога і кругавога глінянага посуду ў пераходны перыяд двух пахавальных абрадаў - змены крэмацыі інгумацыяй. Па некаторых экземплярах можна прасачыць тэхніку стварэння пасудзін, Яна была аднолькавай, як у паўляпных, так і ў кру-гавых пасудзінах.

Увесь посуд Ізбішчанскага могільніка выкананы пры дапамозе так званай «налепачнай тэхнікі», неаднаразова апісанай у літаратуры (Станкевич, 1950, с. 208; Малевская-Малевич, 2005, с. 19-22). Выкарыстанне гэтай тэхнікі прасочваецца на некаторых прыдонных частках пасудзін. Па гаршку з кургана 107 добра бачна, што донца і ніжняя частка сценкі да вышыні 1,6-2 см вылеплена з ад-наго кавалка гліны. Потым да аснавання сценак прымацоўвалі гліняную стужку ці скрутак, звіты кальцом таўшчынёй 1,5-2 см (мал. 13:3). Далей фармавалі пасудзіну спіральным ці кальцавым налепам. Сценкі загладжваліся ўсярэдзіне, а паверхня пасудзіны абточвалася на ручным ганчарным крузе. У некаторых выпадках можна заўважыць, што верхняя частка пасудзіны прылеплівалася зверху, і затым фармаваўся просты венчык (мал. 13:4), ці венчык з карнізікам-манжэтай (мал. 13:6). Ганчарныя клеймы на пасудзінах Ізбішчанскага могільніка сустракаюцца ў невялікай колькасці, што наогул характэрна для пахавальных помнікаў лясной паласы.

Кераміка з курганоў Ізбішчанскага могільніка аналагічная кругавой кераміцы X-XII ст. з паселішча на беразе Дзвінасы. У сярэдзіне X - пачатку XII ст. курганны могільнік і паселішча складалі адзіны комплекс. Ізбішчанскі могільнік мае агульныя рысы з Беразавецкім курганным могільнікам X-XII ст. у Цвярской вобласці (Расія). Параўнанне комплексаў рэчавага матэрыялу Ізбішчанскага могільніка з пахавальным інвентаром Заслаўскага некропаля сведчыць пра даволі высокі дабрабыт вясковага насельніцтва, якое пражывала на Дзвінасе, што мы адзначалі раней (Штыхаў, 1997, с 69). Ізбішчанскі могільнік вылуча-ецца той асаблівасцю, што ў ім значная колькасць пахаванняў арыентавана на поўнач. Паводле пахавальнага інвентару, пераважная большасць пахаванняў у Ізбішчанскім могільніку належыць крывічам-палачанам.

***Літаратура***

1. **Звяруга,** Я.Г. Беларускае Павілле ў жалезным веку і раннім Сярэдневякоўі / МАБ. Вып. 10. 2005.

2. **Малевская-Малевич, М.В.** Керамика западнорусских городов X-XIII вв. / Труды ИИМК РАН. Т. XVII. СПб., 2005.

3. **Мальм, В.А., Фехнер, М.В.** Привески-бубенчики // Очерки по истории русской деревни X-XШ вв. / Труды ГИМ. Вып. 43. М., 1967. С. 133-148.

4. **Медведев,** А.М. Беларуское Понеманье в раннем железном веке (I тысячелетие до н.э. - 5 в. н.э.). Мн., 1996.

5. **Мітрафанаў, А.Р.** Штрыхаванай керамікі культура // Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993. С. 660.

6. **Поболь, Л.Д.** Археологические памятники Белоруссии: Железный век. Мн., 1983.

7. **Седов,** В.В. Восточные славяне в VI-XIII вв. М., 1982.

8. **Станкевич, В.В.** Керамика нижнего горизонта Старой Ладоги // СА. Т. XIV. 1950. С. 187-216.

9. **Чарняўскі, М.** Тарфяніковая стаянка Зацэнне // З глыбі вякоў. Наш край. Вып. 1. Мн., 1996. С. 132-147.

10. **Штыхаў,** Г.В. Крывічы: Па матэрыялах раскопак курганоў у Паўночнай Беларусі. Мн., 1992.

11. **Штыхаў, Г.В.** Курганы Мінскага ўзвышша // Заслаўскія чытанні 1995 г. Матэрыялы міжнароднай канферэнцыі. Заслаўе, 1997. С. 67-73.

12. **Штыхаў, Г.В.** Культура ранніх доўгіх курганоў (V-VIII стст.) // Археалогія Беларусі. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча. Мн., 1999. С 376-384.

13. **Штыхаў,** Г.В. Балты і славяне ў VI-VIII стст. // Гісторыя Беларусі. Т 1. Мн., 2000. С 125-135.

14. **Штыхаў, Г.В., Казей, В.У.** Ізбішча // Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993. С. 281-282.

*Heorhi Shtykhau*

**Archaeological Complex Izbishcha-Dzvinasa in Lagoisk District**

Archaeological complex Izbishcha (Lagoisk district Minsk region) is an unmost Eastern point of Belarusian Vilija Basin region. It consists of an Iron Age settlement and a barrow cemetery of the 10th - beginning of the 12th centuries. In 1987-1989 the monument was excavated by V. Kazei and in 1990-1991 by Heorhi Shtykhau. The article summes up the results of these excavations.




*Мал. 1. План археалагічнага комплекса Ізбішча-Дзвінаса: 1 - шурфы і раскопы на селішчы, 2 - курганы з крэмацыяй, 3 - бірытуальныя пахаванні, 4 - курганы з інгумацыяй на гарызонце, 5 - падкурганныя ямы, 6- кенатафы, 7- курганы нераскапаныя*




*Мал. 2. Сепішча на Дзвінасе: кераміка з раскопа 1*




*Мал. 3. Прадметы з селішча на Дзвінасе: 1, 2, 5, 7, 8, 10,13 - бронза; 3, 6, 14 - жалеза; 4 - шкло; 9, 11, 12 - гліна*



*Мал. 4. План раскопа II: ямы ў мацерыковым грунце*




*Мал. 5. Прадметы з селішча на Дзвінасе: 1, 3, 5-9, 15, 23 - бронза; 2,4 - шкло; 10, 27 - жалеза; 11-14, 16-22, 24, 25, 26, 28, 29 - гліна*




*Мал. 6. Ляпная кераміка з селішча на Дзвінасе*




*Мал. 7. Кругавая кераміка з селішча на Дзвінасе*

| | **Віды пахавальнага абраду - інгумацыі** |
|---|---|
| *1* | |
| *2* | |
| *3* | |
| *4* | |
| *5* | |
| *6* | |

*Мал. 8. Віды пахавальнага абраду з трупапакладаннем у курганах Ізбішчанскага курганнага могільніка*



*Мал. 9. План кургана 63 Ізбішчанскага могільніка*




*Мал. 10. Прадметы з пахавання ў кургане 99 (бронза)*




*Мал. 11. Прадметы з пахаванняў кургане 5 (бронза)*




*Мал. 12. Прадметы з пахаванняў кургане 26:1-3 - срэбра; 4 - бронза; прадметы з пахавання ў кургане 101: 5-10 (бронза)*




*Мал. 13. Гліняны посуд з курганоў Ізбішчанскага могільніка другой паловы X-XI ст.*




*Мал. 14. Гліняны посуд з курганоў Ізбішчанскага могільніка сярэдзіны X - пачатку XI ст.*




*Мал. 15. Гліняны посуд з кurганоў Ізбішчанскага могільніка канца X - пачатку XII ст.*

*Мікалай Плавінскі*

# СЯКЕРЫ ДРУГОЙ ПАЛОВЫ XI-XIII СТСТ. З РАСКОПАК МІНСКАГА ЗАМЧЫШЧА

Зварот да разгляду сякер старажытнарускага часу з Мінскага Замчышча тлумачыцца тым, што гэты помнік з'яўляецца адным з нешматлікіх на Беларусі, дзе храналогія культурных адкладаў распрацавана дастаткова добра. Гэта дае рэдкую магчымасць адносна вузкага і надзейнага датавання асобных знаходак, зыходзячы з іх стратыграфічнага становішча. Адпаведна, калекцыя мінскіх сякер можа стаць адной з эталонных для распрацоўкі храналогіі гэтай катэгорыі прадметаў матэрыяльнай культуры насельніцтва тэрыторыі Беларусі старажытнарускага часу. Аднак з самага пачатку праца з матэрыяламі раскопак Мінскага Замчышча напаткала цэлы шэраг складанасцяў. Першая з іх - адсутнасць калекцыйных вопісаў у справаздачах аб раскопках 1940-1950-х гг., што ў сваю чаргу вядзе да немагчымасці супастаўлення храналагічных распрацовак Э.М. Загарульскага (Загорульский, 1982) з палявой дакументацыяй. Не менш істотнай праблемай стала тое, што не ўсе матэрыялы раскопак Мінскага Замчышча былі перададзены на захаванне ў музейныя зборы. З гэтай прычыны цэлы шэраг сякер і іх фрагментаў застаецца вядомым толькі па фотаздым-ках, прамалёўках, апісаннях альбо простых згадках. Усё гэта робіць калекцыю мінскіх сякер сапраўды эталоннай у тым сэнсе, што выкладзеныя ў форме салідных манаграфічных даследаванняў матэрыялы раскопак сярэднявечных беларускіх гарадоў застаюцца практычна недаступнымі для верыфікацыі і новых даследаванняў, у тым ліку і рэчазнаўчага характару. Але, не гледзячы на ўсе пералічаныя складанасці, звязаныя з апрацоўкай калекцыі сякер з Мінскага Замчышча, яна ўсё ж не губляе сваёй вялікай навуковай каштоўнасці.

Раскопкі Мінскага Замчышча праводзіліся ў 1945-1951 гг. пад кіраўніцтвам В.Р. Тарасенка (Тарасенко, 1947а; 1947б; 1948; 1951; 1957, 194-199), у 1957-1961 гг. пад кіраўніцтвам Э.М. Загарульскага (Загорульский, 1982, с. 67-68), у 1976 г. пад кіраўніцтвам Г.В. Штыхава, у 1981-1982 гг. пад кіраўніцтвам В.Е. Собаля (Штыхаў, 1993, с. 434) і ў 1984-1989 гг. пад кіраўніцтвам Г.В. Штыхава (Штыхов, 2004)[1].

Матэрыялы раскопак 1945-1951 і 1957-1961 гг. былі абагулены Э.М. Загарульскім у манаграфіі «Возникновение Минска» (Загорульский, 1982). Значная частка калекцыі з раскопак гэтых гадоў паступіла ў збор Нацыяналь-нага музея гісторыі і культуры Беларусі. Што ж датычыцца вынікаў пазнейшых даследаванняў, у тым ліку і матэрыялаў з раскопу «Няміга», дык яны дагэтуль застаюцца практычна неапублікаванымі і не музеефікаванымі (Заяц, 1996; Штыхов, 2004). Таму асновай для даследавання сякер Мінскага Замчышча з'яўляюцца знаходкі з раскопак 1945-1961 гг.,а менавіта тыя з іх, што захоўваюццаўНМГІ КБ. Звесткі аб прадметах з раскопак 1984-1989 гг. запазычаны з існуючых публікацый (Заяц, 1996, с. 71, рис. 19:2, 28:2; Штыхов, 2004, рис. 9:3) і архіўных матэрыялаў (Штыхов, 1984; 1988).

У зборы НМГІКБ захоўваецца 14сякер і іхфрагментаўзраскопак 1945-1961 гг., з якіх да разглядаемага перыяду могуць быць аднесены 12 (з іх адна - нарыхтоўка). Усяго, паводле звестак Э.М. Загарульскага, падчас гэтых даследаванняў было

[1] Хачу прынесці шчырую падзяку Г.В. Штыхаву за магчымасць азнаямлення з матэрыяламі яго раскопак і іх публікацыі.

знойдзена 17 цэлых і фрагментаваных сякер другой паловы XI - пачатку XIV ст. (Загорульскйй, 1982, с 210)[2]. Як ужо было адзначана, у справаздачах аб раскопках Мінскага Замчышча ў 1945-1961 гг. адсутнічаюць калекцыйныя вопісы знаходак. Супастаўленне палявых нумароў на прадметах са збору НМГ І КБ (4 з 14 сякер і іх фрагментаў не маюць палявых нумароў)[3] са звесткамі з манаграфіі Э.М. Зага-рульскага (Загорульский, 1982, табл. 1-2) не дазволіла ўпэўнена ідэнтыфікаваць усе знаходкі. З гэтай прычыны ў каталог (Табл. I)[4] уключаны толькі тыя сякеры з раскопак 1945-1961 гг., якія сёння захоўваюцца ў НМГ І КБ, а таксама адзін экземпляр, вядомы па фотаздымку ў працы Э.М. Загарульскага (Загорульский, 1982, рис. 137).

Яшчэ адна сякера другой паловы XII - пачатку XIII ст. была знойдзена пад-час даследаванняў гарадской брамы ў 1984 г. (Штыхов, 1984, рис. 30:1; Заяц, 1996, с. 43, 71). Нарэшце, лязо яшчэ адной сякеры выяўлена ў тым жа 1984 г. пры раскопках вала (Штыхов, 1984, с. 10, рис. 30:3; 2004, с. 235). Такім чынам, за час раскопак Мінскага Замчышча было знойдзена не менш як 19 цэлых і фрагментаваных сякер другой паловы XI - пачатку XIV ст. З іх прыдатнымі для аналізу (захаванымі ў музейным зборы, альбо вядомымі паводле малюнкаў і фотаздымкаў) з'яўляюцца 15 (Табл. I, № 1-15).

Для сістэматызацыі знаходак з Мінскага Замчышча выкарыстоўваецца тыпалогія А.М. Кірпічнікава. Неабходна адзначыць, што гэтая тыпалогія была рас-працавана адмыслова для старажытнарускіх баявых сякер (Кирпичников, 1966, с. 26-46). Але на сённяшні дзень яна з'яўляецца найбольш шырока ўжыванай як для баявых, так і для рабочых узораў. Іншыя існуючыя тыпалогіі старажытнарускіх сякер, прапанаваныя ў розныя часы В.П. Левашовай, Б. А. Колчыным, М.Х. Аляшкоўскім (Левашева, 1956, с. 39-48; Колчин, 1959, с. 29; Алешковский, 1960, с. 71-80) значна саступаюць па папулярнасці тыпалагічнай схеме А.М. Кірпічнікава. Папулярнасць апошняй у пэўнай ступені тлумачыцца тым, што значная частка тыпаў уключае як баявыя, так і рабочыя ўзоры, мяжа паміж якім праводзіцца на падставе іх вагі (Кирпичников, 1966, с. 28). Аднак шэраг форм сякер, найперш рабочых, сёння не знаходзіць сабе месца ў тыпалагічнай схеме А.М. Кірпічнікава. Часам даследчыкі вымушаны «ўціскаць» знойдзеныя імі сякеры ў межы гэтай тыпалогіі, што, канеч-не, не можа прынесці станоўчых вынікаў.

У такіх умовах можа быць толькі два шляхі «легалізацыі» новых форм сякер. Першы з іх заключаецца ў дапаўненні тыпалагічнай схемы А.М. Кірпічнікава новымі тыпамі, што з'яўляецца цалкам магчымым, бо сама структура тыпалогіі адкрыта для зменаў і дапаўненняў. Другі шлях - стварэнне новай універсальнай тыпалогіі старажытнарускіх сякер, якая ахоплівала б усю разнастайнасць існуючых

[2] У публікацыі вынікаў раскопак 1945-1951 гг. В.Р. Тарасенка ўзгадвае аб знаходцы ўсяго аднаго фрагмента сякеры ХП-XIII стст. (Тарасенко, 1957, с. 233). Хаця, зыходзячы з дадзеных справаздач, адна цэлая сякера была выяўлена ўжо ў 1947 г. (Тарасенко, 1947, с. 30-31). У брашуры 1963 г. Э.М. Загарульскі ўзгадвае аб знаходцы больш як дзесятка сякер, у тым ліку шасці цалкам захаваных (Загорульский, 1963, с. 58).

[3] У акце прыёму № 1190 за 1963 г. прыведзены наступныя палявыя нумары сякер: 2839/8553, 2838/563, 2840/а997, 2840/а1320, 2840/а38, 2838/2893, 2839/9853, 2838/7896, 2840/а838, 4 экз. б/н (без нумароў).

[4] Сякеры ў каталозе размяшчаюцца ў храналагічным парадку (спачатку цалкам за-хаваныя, затым фрагментаваныя узоры). У слупку «Палявы шыфр» змяшчаюцца нума ры, пазначаныя на прадметах са збору НМГ І КБ, прыведзеныя ў адпаведных табліцах манаграфіі Э.М. Загарульскага (Загорульский, 1982, табл. 1-2), альбо і тыя, і іншыя нумары ў выпадках, калі яны не супадаюць, а таксама нумары паводле калекцыйнага вопісу знаходак з раскопак 1984 г. (Штыхов, 1984, рис. 30).

форм незалежна ад іх функцыйнага прызначэння. Падавалася б, што гэты шлях з'яўляецца найлепшым. Аднак для яго рэалізацыі неабходна стварэнне каталога знаходак з усёй тэрыторыі Старажытнай Русі, што ў сённяшніх умовах можа быць ажыццёўлена толькі ў выніку доўгатэрміновай працы цэлага калектыву даследчыкаў з Беларусі, Расіі і Украіны. Таму пакуль мы будзем карыстацца тыпалогіяй А.М. Кірпічнікава, прыстасаваўшы яе да наяўнага матэрыялу - дапоўніўшы, зыходзячы з марфалагічных асаблівасцяў разглядаемых знаходак.

Звернемся да апісання знаходак. Варта адзначыць, што ўсе сякеры і іх фрагменты, якія захоўваюцца ў НМГ І КБ, падвяргаліся рознай ступені ачысткі ад карозіі і кансервацыі. Магчыма, менавіта падчас кансервацыі былі страчаны палявыя нумары на частцы прадметаў[3].

1. Барадападобная сякера з парнымі шчакавіцамі і абушнымі касіцамі са слою другой паловы XI ст. (Табл. I, № 1). На лязе маецца адтуліна дыяметрам 0,55 см, на ўнутраным баку бародкі - выступ (мал. 1:2). Найбольш пацярпела ад карозіі абушная частка - з аднаго боку страчана шчакавіца і часткова страчана абушная касіца. Правушына акруглай формы.

2. Барадападобная сякера са слою другой паловы XI ст. (Табл. I, № 2). Захавалася фрагментарна - страчана абушная частка (мал. 2:2).

3. Барадападобная сякера, верагодна, першай чвэрці XII ст. (Табл. I, № 3). Сякера захавалася адносна дрэнна - страчаны вялікі фрагмент у раёне правушыны (мал. 1:4). Стан захаванасці прадмета дазваляе вызначыць, што абух сякеры быў сфармаваны наступным чынам: шыйка была раскляпана, загорнута (утворана правушына) і зноў прыкляпана. Правушына мела акруглую форму.

4. Барадападобная сякера першай паловы XII ст. Сякера добрай захаванасці, страчаны толькі дробныя фрагменты металу ў ніжняй частцы ляза (Табл. I, № 4). На ўнутраным баку бародкі маецца выступ. Верхні і ніжні выступы на тыльным баку абуха маюць прамавугольныя абрысы, правушына акруглай формы (мал. 1:5). Абух сякеры сфармаваны такім жа чынам, як і ў папярэдняга экземпляра. Правушына акруглай формы.

5. Барадападобная сякера сярэдзіны XII ст. (Табл. I, № 5). На ўнутраным баку бародкі маецца выступ. Страчана верхняя частка абуха (мал. 1:1). Правушына акруглай формы.

6. Барадападобная сякера са слою 50-70-х гг. XII ст. (Табл. I, № 6). Лязо са стальной наваркай. Знаходка з'яўляецца надзвычай каштоўнай, бо тапарышча сякеры захавалася цалкам. Яно мела даўжыню 62 см (мал. 3:1). На жаль, вызначыць, дзе на дадзены момант захоўваецца сякера, я не змог.

7. Барадападобная сякера другой паловы XII ст. захавалася практычна цалкам, за выключэннем верхняй часткі абуха (Табл. I, № 7). Лязо сякеры было пашкоджана яшчэ ў старажытнасці ў выніку ўдару - яно нібыта «расслаілася» (мал. 1:3). Найбольш цікавым з'яўляецца тое, што ў правушыне захаваўся кавалак скуры. Скура, відавочна, выкарыстоўвалася для надзейнага насаджвання сякеры на тапарышча. Выкарыстанне скуры ў гэтых мэтах зафіксавана таксама на знаходках з Ноўгарада, Старой Русы, Пскова, дзе знойдзены тапарышчы, абматаныя ў месцы насадкі сякеры скурай (Колчин, 1959, с. 27; Кулакова, Салмин, 2006, с. 33, рис. 2; Торопов, Торопова, 2006, с. 133, рис. 2). Відавочна, падобны метад насадкі сякеры на тапарышча быў вельмі папулярным у старажытнарускі час, бо, наколькі мне вядома, традыцыі забівання металічных клінняў у тарцовыя паверхні тапарышчаўу X-XIII стст. яшчэ

[5] Калі праводзілася кансервацыя сякер - да іх паступлення ў музей, альбо пасля, застаецца невядомым. У кожным разе, на час іх паступлення ў музейны збор чатыры экземпляры палявых нумароў ужо не мелі..

не існавала, прынамсі, на Заходніх землях Русі. У той жа час, сякера трэцяй чвэрці XIV ст. са Старой Русы мацавалася на тапарышчы адначасова пры дапамозе скуры і металічнага кліна (Торопов, Торопова, 2006, с 133, рис. 2).

8. Барадападобная сякера з моцна адцягнутай данізу бародкай (Табл. I, № 8). На лязе маецца след ад удару аб нейкі цвёрды прадмет. Правушына авальнай формы (мал. 2:1). Палявыя нумары на сякеры не захаваліся. У манаграфіі Э.М. Загарульскага яе фотаздымак адсутнічае. Разам з тым у Табліцы 1 зміяшчаецца інфармацыя аб сякеры канца XII ст. пад нумарам 2840/1320. Сярод палявых нумароў сякер, якія паступілі ў збор НМГ І КБ, такога нумару няма (але, як адзначалася, ужо тады чатыры экземпляры не мелі нумароў). Здавалася б, можна атаясаміць гэтыя знаходкі. Аднак гэткаму атаясамленню супярэчыць тое, што памеры наяўнай сякеры і сякеры з палявым нумарам 2840/1320 паводле Э.М. Загарульскага не супадаюць[6]. Таму пакуль разглядаемая сякера застаецца недатаванай паводле стратыграфічных дадзеных, але яе тоеснасць сякеры канца XII ст. за нумарам 2840/1320 цалкам верагодная (Табл. I, № 8).

9. Барадападобная сякера другой паловы XII - пачатку XIII ст. (Табл. I, № 9). Значная частка ляза страчана (мал. 3:2). Правушына акруглай формы.

Астатнія знаходкі прадстаўлены фрагментамі сякер.

10. Лязо барадападобнай сякеры (мал. 3:3), якое было знойдзена пад другой падсыпкай вала Замчышча падчас раскопак 1984 г. (Табл. I, № 10) і, адпаведна, можа быць датавана канцом XI - пачаткам/першай чвэрцю XII ст. (Штыхов, 1984, с. 10, рис. 30:3; 2004, с. 235; Заяц, 1996, с. 25).

11. Лязо барадападобнай сякеры са слоя 30-х гг. XII ст. (мал. 2:3) (Табл. I, № 11). Лязо было распілаванае на дзве часткі, верагодна, з мэтай правядзен-ня металаграфічных даследаванняў[7]. Аднак ніякіх звестак аб выніках гэтых даследаванняў мы не маем.

12. Лязо барадападобнай сякеры, верагодна 30-х гг. XII ст. (Табл. I, № 12). На ўнутраным баку бародкі маецца выступ (мал. 2:5).

13. Фрагмент сякеры, які паходзіць са слоя 30-х гг. XII ст. (Табл. I, № 13). Захавалася абушная частка і шыйка сякеры, якая належала да ліку барадападобных. Правушына акруглай формы (мал. 2:6).

14. Лязо вузкалязовай сякеры, верагодна канца XIII - пачатку XIV ст. (Табл. I, № 14). Страчаны невялікі фрагмент ляза ў верхняй яго частцы. Без уліку гэтага фрагменту шырыня ляза складае 9,2 см (мал. 2:4).

15. Яшчэ адзін варты ўвагі прадмет, верагодна, можа быць інтэрпрэтаваны як фрагмент нарыхтоўкі сякеры, магчыма, барадападобнай (Табл. I, № 15). Нарыхтоўка прадстаўляе з сабе фрагмент пласціны, якая была зроблена з двух (?) пракаваных слаёў металу (мал. 2:7). Наяўны фрагмент з'яўляецца часткай нарыхтоўкі - частка абуха, шыйкі і ляза.

Акрамя сякер і іх фрагментаў старажытнарускага часу, на Мінскім Замчышчы і ў непасрэднай блізкасці ад яго былі знойдзены дзве познасярэднявечныя сякеры і адно недатаванае лязо барадападобнай сякеры. Першая з сякер знойдзена па-за межамі Замчышча падчас раскопак 1984-1985 гг. Яна адрозніваецца невялікімі памерамі (мал. 3:6) і датуецца XVII ст. (Заяц, 1996, с. 71, рис. 28:2).

[6] Праўда, і ў іншых выпадках рэальныя памеры наяўных прадметаў і параметрычныя дадзеныя Э.М. Загарульскага разыходзяцца.

[7] Лязо было распілаванае да 1963 г., бо ў музейны збор яно паступіла ўжо ў такім выглядзе. На фотаздымку ў манаграфіі Э.М. Загарульскага прыводзіцца выява толькі часткі ляза (Загорульский, 1982, табл. III:6). Верагодна, лязо распілавалі падчас мікраструктурных даследаванняў, праведзеных у Фізіка-тэхнічным інстытуце АН БССР Л.А. Шаўчуком і Т.М. Каробушкінай (Загорульский, 1982, с 259).

Другая сякера мае шырокае лопасцевае лязо з глыбокім прарэзам бліжэй да ўнутранага боку лопасці (мал. 3:4). Тыльны бок абуха плоскі, правушына падпяцівугольнай формы. Г.М. Сагановіч аднёс сякеру да тыпу IV паводле створанай ім тыпалогіі познесярэднявечных беларускіх сякер і датаваў яе XVIII ст. Па яго меркаванні, гэты тып з'яўляецца правобразам сучаснай рабочай сякеры (Сагановіч, 2001, с. 261-262)[8].

Нарэшце, у зборы НМГ І КБ захоўваецца лязо бародападобнай сякеры з выступам на ўнутраным баку бародкі (НМГ І КБ, КП 10613/156, КП 10914/6). На прадмеце маецца моцна зацёрты палявы нумар, верагодна - 2838/78947. Таксама, як і ў № 11, лязо было распілаванае на 2 часткі для металаграфічнага аналізу, вынікі якога не вядомы. У манаграфіі Э.М. Загарульскага прыведзены фотаздымак гэтага прадмета[9], аднак ніякіх звестак аб яго стратыграфічным становішчы і датаванні няма (Загорульский, 1982, табл. III:5). Паводле сваіх абрысаў лязо магло б быць аднесена да старажытнарускага часу, аднак магчымасці такога датавання супярэчыць тое, што на адным баку ляза маюцца тры мініяцюрныя выявы (памерам усяго 2х1,5 мм) у выглядзе арабскай лічбы «8» (мал. 3:5). У старажытнарускі час звычаю кляймення сякер не існавала, а арнаментаваныя ўзоры гэтага перыяду з'яўляюцца надзвычай рэдкімі (Даркевич, 1961, рис. 3:4, 6, 8; Кирпичников, 1966, с. 42-43; Артемьев, 1994). Якія-небудзь аналогіі выявам на лязе мінскай сякеры ў старажытнасцях XI-XIII стст. мне не вядомы, таму аднесці яе да разглядаемага перыяду не падаецца магчымым.

Відавочна, што ў другой палове XI-XIII стст. насельніцтва Мінскага Замчышча карысталася бародападобнымі сякерамі (мал. 4, 5). Прыдатнымі для тыпалагічнага вызначэння з'яўляюцца восем цэлых узораў. З іх толькі чатыры ўкладаюцца ў тыпалогію А.М. Кірпічнікава. Сякера № 1 належыць да тыпу IV (мал. 1:2), экземпляры № 6 і № 8 - да падтыпу IVA (мал. 2:1, 3:1) (Кирпичников, 1966, с. 36-37). Да падтыпу IVA, верагодна, належыць і сякера № 3 (мал. 1:4).

Сякеры № 4, 5, 7, 9 па абрысах супадаюць з падтыпам IVA. Аднак яны маюць цэлы шэраг сур'ёзных асаблівасцяў, такіх як прамая спінка, больш вузкае лязо і больш шырокая бародка, якая па шырыні набліжаецца да шырыні ляза (мал. 1:1,3, 5; 3:2). Мяркуючы па масіўнасці і значнай вазе - ад 586 да 856 г., дадзеныя сякеры былі ў першую чаргу рабочымі прыладамі, хаця выключаць магчымасць іх баявога выкарыстання, натуральна, нельга. Зыходзячы з марфалагічных асаблівасцяў сякер № 4,5,7,9, іх можна вылучыць у асобны падтып у межах тыпалогіі А.М. Кірпічнікава - падтып IVB. Да гэтага ж падтыпу, верагодна, належыць і фрагментаваны экземпляр № 2, які таксама мае прамую спінку, адносна вузкае лязо і адносна шырокую бародку (мал. 2:2). Нават без страчанай абушной часткі вага сякеры складае 650 гр. Адразу неабходна адзначыць, што вызначыць строгую мяжу паміж сякерамі падтыпаў IVA і IVB цяжка. Складанне набору прыкмет, характэрных для падтыпу ГУБ, варта разглядаць хутчэй як тэндэнцыю па спрамленні спінкі, звужэнні ляза і адначасовым пашырэнні бародкі сякер падтыпу IVA. Вылучэнне новага падтыпу найперш рабочых сякер у межах тыпалогіі А.М. Кірпічнікава, якая была адмыслова распрацавана з мэтай сістэматызацыі сякер баявых, можа выклікаць пярэчанні. Аднак, як ужо было адзначана, гэтая тыпалогія за час свайго «жыцця» незалежна

[8] У публікацыі В.М. Мядзведзевай, прысвечанай касцярэзнай вытворчасці Полацкай зямлі IX-XIII стст., гэты прадмет чамусьці стаў інструментам апрацоўкі касцяной сыравіны азначанага перыяду (Мядзведзева, 2005, мал. 6:1).

[9] Як і ў выпадку з экземплярам № 11, на фотаздымку ў манаграфіі Э.М. Загарульскага прыводзіцца выява толькі часткі ляза (Загорульский, 1982, табл. III:5). Верагодна, яно такса ма падвяргалася мікраструктурнаму аналізу ў Фізіка-тэхнічным інстытуце АН БССР.

ад жаданняў ствральніка «распаўсюдзілася» і на рабочыя ўзоры. Таму вылучэнне новых тыпаў і падтыпаў падобнага кшталту можна лічыць цалкам апраўданым да часу распрацоўкі ўніверсальнай тыпалогіі старажытнарускіх сякер.

Сякеры падтыпу IVB знойдзены не толькі ў Мінску. На Заходніх землях Русі яны выяўлены ў Брэсце, Клецку, Лукомлі, Полацку, Віцебску, Лоску, Оршы, Друцку, Рагачове, на гарадзішчах Маскавічы, Прудніkі, Вішчын. Усяго знойдзена больш за 20 экзэмпляраў, што адпаведна складае больш за 10 % ад агульнай колькасці сякер X-XIII стст. з тэрыторыі Беларусі. Усе знаходкі (за выключэннем выпадковых) па-ходзяць з гарадскіх слаёў. На тэрыторыі Беларусі падтып IVB, відавочна, з'яўляецца яшчэ ў XI ст., хаця большасць знаходак належыць да XII-XIII стст. Тып, напэўна, перажыў старажытнарускі час і, верагодна, працягваў выкарыстоўвацца ў XIV ст.

Разам з тым, у іншых рэгіёнах Старажытнай Русі распаўсюджанне падтыпу IVB было мінімальным. Прынамсі, мяркуючы па публікацыях, сярод больш як 200 наўгародскіх сякер, якія былі знойдзены да 1985 г., узораў гэтага падтыпу не было (Колчин, 1959, с. 25-29; 1982, с. 161, 164; 1985, с. 255, табл. 97). На Паўночным Заха-дзе Расіі можна назваць могільнік ля вёскі Лашкавіцы (II) у Водскай зямлі (Рябинин, 2001, с. 44, 180, табл. XXI:2). Ва Усходняй і ў Паўднёвай Русі аналагічныя знаходкі таксама выключна рэдкія.

У той жа час, сякеры, аналагічныя падтыпу IVB, былі шырока распаўсюджаны ў Латвіі з XI па XIV ст. (Atgāzis, 1964, lpp. 124, att. 3:3-4; 1997, att. 5). Вядомы яны і ў яцвяскіх могільніках, дзе іх датаванне застаецца пакуль не да канца зразумелым (Квятковская, 1998, с 112, рис. 35:3).

Адзіная на Мінскім Замчышчы вузкалязовая сякера прадстаўлена фрагментам канца XIII - пачатку XIV ст., аднак вызначыць яе тыпалагічную прыналежнасць па наяўным фрагменце немагчыма (мал. 2:4).

Акрамя саміх сякер, на Мінскім Замчышчы было знойдзена яшчэ тры прадметы, якія відавочна прадстаўляюць пэўную цікавасць для сапраўднага даследа-вання. Я маю на ўвазе дзве касцяныя сякеры і падвеску-амулет у выглядзе сякеркі, зробленую з пясчаніку[10].

Першая з касцяных сякер[11] паходзіць з раскопак 1945-1961 гг. (НМГ І КВ, КП 10613/71, палявы шыфр - 2838/4683). У існуючых публікацыях звесткі аб гэтай знаходцы адсутнічаюць, што не дазваляе вызначыць яе датаванне, зыходзячы са стратыграфічнага становішча. З аднаго боку сякера ўпрыгожана арнаментам з кро-пак і пракрэсленых ліній (мал. 6:2).

Другая касцяная сякера была знойдзена ў 1988 г. Наколькі можна зразу-мець са справаздачы, яна можа быць датавана ў шырокіх храналагічных межах XII-XIII стст. (Штыхов, 1988, рис. 32:2). Сякера мае лязо «трохвугольнай» формы. Адтуліна для рукаяці прасвідравана блізка да сярэдзіны яе даўжыні, у выніку чаго «абух» атрымаў падоўжаныя абрысы (мал. 6:1). На адным з бакоў ляза сякеры маецца графіці, інтэрпрэтаванае Г.В. Штыхавым як выява каня (Штыхов, 1988, рис. 32:2). На мой по-гляд, гэткая інтэрпрэтацыя з'яўляецца надзвычай смелай. Блізкія па форме касцяныя сякеры знойдзены ў Прыбалтыцы, Скандынавіі і на Русі (Paulsen, 1956, s. abb. 19,21:a-b, 22; Mugurēvičs, 2000, abb. 2:2,4; Zabiela, 1995, pav. 152:3; Артемьев, 1994, с. 165, рис. 5).

Касцяныя сякеры старажытнарускага і больш позняга часу знойдзены не толькі на Мінскім Замчышчы, але і ў шэрагу іншых беларускіх гарадоў: у Тураве,

[10] Звесткі В.Р. Тарасенкі аб знаходцы «одного миниатюрного топорика из свинца, по своей форме обычного курганного типа» (Тарасенко, 1957, с. 235) не ўлічваюцца, бо азнаёміцца з самім прадметам я не здолеў, а існуючая выява не дае ніякіх падстаў лічыць яго амулетам у выглядзе сякеркі.

[1] Кажучы дакладней, сякера зроблена з рогу лася (вызначэнне А.А. Разлуцкай).

Давід-Гарадку, Віцебску (Лысенко, 1974, с. 134, рис. 10:16, 39:12; 1999, рис. 59:9; 2004, с. 72-72, рис. 34; Левко, 2003, с. 149, рис. 16:3; 2004, рис. 21:3). Для Русі ўвогуле знаходкі касцяных сякер з'яўляюцца рэдкімі. Яны вядомы ў Вялікім Ноўгарадзе, Пскове і Ніжнім Ноўгарадзе (Артемьев, 1994, с. 165). Разам з тым у рэгіёнах, пры-леглых да Балтыйскага мора, касцяныя сякеры сустракаюцца дастаткова часта (Paulsen, 1956, s. 52-59, abb. 19-22; Mugurēvičs, 2000). Адзінага погляду наконт пры-значэння касцяных сякер няма. П. Паўлсен меркаваў, што яны служылі сімвалам гонару і правоў уладальніка (Paulsen, 1956, s. 58-59), у той час як Э. Мугурэвіч схіляецца да іх інтэрпрэтацыі як прадметаў культу (Mugurēvičs, 2000, s. 74). Пытан-не аб тым, якую функцыю выконвалі касцяныя сякеры ў побыце жыхароў гарадоў Беларусі старажытнарускага часу, выходзіць па-за межы сапраўднай працы, а яго вырашэнне патрабуе адмысловага даследавання.

Падвеска-амулет у выглядзе сякеркі была знойдзена ў 1961 г.[12] у ювелірнай майстэрні пачатку XIII ст. (Загорульский, 1982, с. 261). Зробленая з пясчаніку сякер-ка мае шырокае трохвугольнае «лязо». На адным з бакоў сякеркі нанесена графіці (мал. 6:3).

Такім чынам, калекцыя сякер другой паловы XI-XIII стст. з Мінскага Зам-чышча складаецца з бародападобных экземпляраў. З іх адзін належыць да тыпу IV, які ў X-XI стст. меў агульнарускае распаўсюджанне (Кирпичников, 1966, с. 36-37) і ўключаў баявыя і поліфункцыйныя ўзоры. Тры сякеры належаць да падтыпу IVA, які на самай справе з'яўляецца самастойным тыпам балтыйскага паходжання кан-ца X-XШ стст. Да гэтага тыпу маглі належаць як баявыя, так і поліфункцыйныя сякеры. Нарэшце, наибольшую папулярнасць у насельнікаў Замчышча атрымалі рабочыя сякеры падтыпу IVB, які таксама мае балтыйскае паходжанне.

Вузкае датаванне знаходак з Мінскага Замчышча можа даць падставы для ўдакладнення храналагічных рамак выкарыстання розных тыпаў бародападобных сякер. Адзіная сякера тыпу IV належыць да другой паловы XI ст. Падтып IVA да-туецца, паводле мінскіх матэрыялаў, XII ст., а падтып IVB - другой паловай XI -пачаткам XIII ст. (мал. 4). Пры гэтым варта ўлічваць, што абсалютная большасць знаходак (трынаццаць з пятнаццаці) належыць да ХП-ХШ стст.

Суадносіны знаходак з Мінскага Замчышча надзвычай добра адлюстроўваюць агульную ступень уплыву балтыйскіх ваенна-тэхнічных традыцый на развіццё абуховай зброі Заходніх зямель Русі. Так, сякеры балтыйскіх тыпаў складаюць не менш як 34 % ад агульнай колькасці ўлічаных знаходак X-XШ стст. А ў XIII ст. падтып IVB увогуле застаецца практычна адзінай формай сякер, якія былі ва ўжытку насельніцтва Заходнерускіх земляў.

### *Літаратура*

1. **Алешковский,** М.Х. Курганы русских дружинников XI-XII вв. // СА. № 1. 1960. С. 70-90.

2. **Артемьев, А.Р.** Орнаментированные топоры из раскопок средневекового Новгорода // Новгород и Новгородская земля: История и археология. Вып. 8. Новгород, 1994. С. 156-166.

3. **Даркевич,** В.П. Топор как символ Перуна в древнерусском язычестве // СА. №4. 1961. С. 91-102.

[12] Палявы шыфр - М-61/143. Захоўваецца ў вучэбнай лабараторыі музейнай справы гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

**4. Заяц, Ю.А.** Оборонительные сооружения Менска XI-XIII вв. Мн., 1996.

5. **Загорупьский, Э.М.** Древний Минск. Мн., 1963.

6. **Загорупьский, Э.М.** Возникновение Минска. Мн., 1982.

7. **Квятковская, А.В.** Ятвяжские могильники Беларуси (к. XI-XVII вв.). Вильнюс, 1998.

8. **Кирпичников, А.Н.** Древнерусское оружие. Вып. 2. Копья, сулицы, боевые топоры, булавы, кистени IX-XIII вв. / САИ. Вып. Е1-36. М.-Л., 1966.

9. **Колчин, Б.А.** Железообрабатывающее ремесло Новгорода Великого (Продукция, технология) // Труды Новгородской археологической экспедиции. Т. II. МИА. №65. 1959. С. 8-120.

10. **Колчин, Б.А.** Хронология новгородских древностей // Новгородский сборник. 50 лет раскопок Новгорода. М., 1982. С. 156-177.

11. **Колчин, Б.А.** Ремесло // Древняя Русь. Город, замок, село / Археология СССР. М,, 1985. С. 243-197.

12. **Кулакова, М.И., Салмин, С.А.** Боевой топорик из Трупеховского II раскопа // Археология и история Пскова и Псковской земли: Материалы LI научного семинара. Псков, 2006. С. 33-37.

13. **Левашева, В.П.** Сельское хозяйство // Очерки по истории русской деревни Х-ХШ вв. Труды ГИМ, Вып. 32. М., 1956.

14. **Левко,** О.Н. Улица Подвинская в Витебске (археологическое изучение в 1979-1998 годах) // МАБ.. № 6. 2003.

15. **Левко,** О.Н. Средневековые территориально-административные центры северо-восточной Беларуси: Формирование и развитие. Мн., 2004.

16. **Лысенко, П.Ф.** Города Туровской земли. Мн., 1974.

17. **Лысенко, П.Ф.** Туровская земля IX-XIII вв. Мн., 1999.

18. **Лысенко, П.Ф.** Древний Туров. Мн., 2004.

19. Мядзведзева, В.У. Вытворчасць касцяных прадметаў Полацкай зямлі // МАБ. Вып. 9. 2005. С. 138-153.

20. **Рябинин, Е.А.** Водская земля Великого Новгорода (результаты археологических исследований 1971-1991 гг.). СПб., 2001.

21. **Сагановіч, Г.М.** Прылады працы і побытавыя рэчы. Асартымент, тыпалогія, храналогія // Археалогія Беларусі. Т.4. Помнікі XIV-XVIII стст. Мн., 2001. С. 260-277.

22. **Тарасенко, В.Р.** Дневник археологических работ на минском Замчище в 1947 г. / АА IГ НАН Беларусі. Спр. № 170. 1947а.

23. **Тарасенко, В.Р.** Отчет о раскопках минского Замчища в 1947 году / АА IГ НАН Беларусі. Спр. № 171. 1947б.

24. **Тарасенко, В.Р.** Отчет об археологических раскопках на минском Замчище за 1948 год / АА IГ НАН Беларусі. Спр. № 294. 1948.

25. **Тарасенко, В.Р.** Отчет об итогах археологического изучения Минского Замчища в свете данных раскопок 1951 г. / АА ІГ НАН Беларусь Спр. № 5. 1951.

26. **Тарасенко,** В.Р. Древний Минск (по письменным источникам и данным археологических раскопок 1945-1951 гг.) // Материалы по археологии БССР. Мн., 1957. С. 182-257.

27. **Торопов, С.Е., Торопова, Е.В.** Боевой топор XIV века из Старой Руссы (Находка 2005 г.) // Новгород и Новгородская земля: История и археология. Материалы научной конференции. Вып. 20. Великий Новгород, 2006. С. 130-141.

28. **Штыхов, Г.В.** Отчет о раскопках в Минске в 1984 году / АА ІГ НАН Беларусі. Спр. № 880. 1984.

29. **Штыхов, Г.В.** Отчет об раскопках в Минске в 1988 году / АА ІГ НАН Беларусі. Спр. № 1664. 1988.

30. **Штыхаў, Г.В.** Мінскі Замак // Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993. С 433-434.

31. **Штыхов, Г.В.** Археологические раскопки в Минске в 80-е годы XX века // ГАЗ. № 19. 2004. С. 232-240.

32. **Atgāzis, M.** Latgaļu 9.-12. cirvji // Arheoloģija un etnogrāfija. № VI. 1964. Lpp. 105-125.

33. **Atgāzis, M.** Āvas cirvji Latvijā // Arheoloģija un etnogrāfija. № 19. 1997. Lpp. 53-63.

34. **Mugurēvičs, Ē.** Die Funde der Hammeräxte aus Horn auf dem Territorium Lettlands und ihre mythologische Deutung // lš baltu kultūras istorijos. Vilnius, 2000. S. 63-74.

35. **Paulsen, P.** Axt und Kreuz in Nord- und Osteuropa. Bonn, 1956.

36. **Zabiela, G.** Lietuvos medines pilys. Vilnius, 1995.

*Mikalai Plavinki* **Axes of Second Half of the ll-13th Centuries from Minsk Zamshyshcha**

Interest to axes of Old Russian period from Minsk Zamshyshcha is explained with the fact that this monument is one of those rare cases in Belarus with clear stratigraphy of culture layers. It gives a unique opportunity of individual finds dating according to their stratigraphycal position. Hence the collection of axes from Minsk can become a standard one for working out chronology of this category of subjects of population of Belarus of the Old Russian period.

Excavations on Minsk Zamshyshcha were held in 1945-1951 under direction of V. Tarasenka, in 1957-1961 under direction of E. Zagarulski, in 1976 under direction of G. Shtykhau, in 1981-1982 under direction of V. Sobal and in 1984-1989 under direction of G. Shtykhau.

The collection of axes of the second half of 11—13th centuries from Minsk Zamshyshcha consists of bitshaped examples. One of them belongs to type IV which was generally spread in Russia in 10- 11th centuries and included both battle and polyfunctional examples. Three axes belong to subtype IVA which is in fact an independent type of Baltic origin of the end of 10-13th centuries. Both battle and polyfunctional axes could belong to this type. And the most popular among Zamshyshcha population were working axes of subtype IVB which is also of Baltic origin.

Exact dating of finds from Minsk Zamshyshcha can give an opportunity to work out a more precise definition of chronology of using of different types of bitshaped axes. The only axe of type IV belongs to the second half of 11th century. According to materials from Minsk subtype IVA belongs to 12th and subtype IVB belongs to the second half of 11th - the beginning of 13th centuries (fig. 4). It should be taken in account that absolute majority of finds (13 of 15) belongs to 12-13th centuries.

Correlation of finds from Minsk Zamshyshcha illustrates very well a general degree of Baltic military and technical traditions influence on evolution of axes of Western Russian lands. Axes of Baltic type make up at least 34 % from all 10-13th centuries finds taken in account. In 13th century subtype IVB remains practically as the only form of axes used by population of West Rus.

**Табліца I. Сякеры другой паловы XI–XIII стст. з Мінскага Замчышча**

| № | *Стан захаванасці* | *Даўжыня (у см)* | *Шырыня ляза (у см)* | *Ø правушыны (у см)* | *Вага (у гр.)* | *Тып* | *Палявы шыфр* | *Музейны нумар* | *Літаратура* | *Датаванне* | *Гарызонт* | *Мал.* | *Заўвагі* |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Сякера | 14,5 | 10 | 2,7×2,8 | 275,45 | IV | 2838/563* | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, рис. 25 | др.п. XI ст. | 1 | 1:2 | На лязе адтуліна |
| 2 | Сякера | 12,53 | 7,5 | — | 650,47 | IVБ (?) | 2840/213* | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, III:2 | др.п. XI ст. | 3 | 2:2 | |
| 3 | Сякера | 15,8 | 8,3 | 3,3×4,1 | 443,33 | IVA | M61/252* | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, 346, табл. 2, II:4 | п.чв. XII ст. (?) | 5 | 1:4 | |
| 4 | Сякера | 18,8 | 10,4 | 3,86×3,72 | 856,87 | IVБ | 2840/997* | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, II:1 | п.п. XII ст. | 6 | 1:5 | |
| 5 | Сякера | 16,3 | 8,5 | 3,35×3,35 | 690,05 | IVБ | 2839/8553 *** | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, II:2 | сяр. XII ст. | 7 | 1:1 | |
| 6 | Сякера | 13,2 | 10,7 | 2,9 | — | IVA | 2839/12308* | — | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, рис. 137 | 50–70-я гг. XII ст. | 7 | 3:1 | Памеры паводле Э.М. Загарульскага |
| 7 | Сякера | 15,2 | 9 | 3,2×3,5 | 586,1 | IVБ | 2839/7789 *** | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, II:3 | др.п. XII ст. | 8 | 1:3 | У правушыне захаваўся кавалак скуры |

| | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 8 | Сякера | 18 | 14 | 4,85×3,9 | — | IVA | 2840/1320 (?) | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1 (?) | кан. XII ст. (?) | 9 (?) | 2:1 | |
| 9 | Сякера | 15,5 | 10 | 3,5 | — | IVБ | 5229 | — | Штыхов, 1984, рис. 30:1; Заяц, 1996, с. 43, 71, рис. 19:2 | др.п. XII–пач. XIII ст. | — | 3:2 | |
| 10 | Лязо сякеры | — | — | — | — | — | — | — | Штыхов, 1984, с. 10, рис. 30:3 | к. XI–пач./п.чв. XII ст. | — | 3:3 | |
| 11 | Лязо сякеры | — | 8,5 | — | 74,66 | — | 2839/9853 *** | НМГ І КБ, КП 10613/156, КП 10914/6 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, Табл. III:6 | 30-я гг. XII ст. (?) | 6 | 2:3 | Распілаванае на 2 часткі |
| 12 | Лязо сякеры | — | 11,1 | — | 406,12 | — | 2840/838* | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, III:1 | 30-я гг. XII ст. (?) | 6 | 2:5 | |
| 13 | Абушная частка сякеры | — | — | 3,7×3,5 | 286,93 | — | 2840/625* 2838/563** | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, III:3 | 30-я гг. XII ст. (?) | 6 | 2:6 | |
| 14 | Лязо сякеры | — | больш за 9,2 | — | 471,5 | — | 2838/7893 *** | НМГ І КБ, КП 10613/156 | Загорульский, 1982, с. 210, табл. 1, III:4 | кан. XIII–пач. XIV ст. (?) | 16 | 2:4 | |
| 15 | Нарыхтоўка сякеры (?) | 10,9 | — | — | 264,17 | — | 2839/10274** | НМГ І КБ, КП 10613/156 | — | — | — | 2:7 | |

* Палявы шыфр паводле Табліц 1–2 і паказальніка да табліц ілюстрацый у манаграфіі Э.М. Загарульскага (Загорульский, 1982, табл. 1–2, с. 346).

** Палявы шыфр на прадмеце.

*** Палявыя шыфры паводле Табліц 1–2 у манаграфіі Э.М. Загарульскага і на прадмеце супадаюць.




*Мал. **1.** Сякеры другой паловы XI-XIII стст. з Мінскага Замчышча (малюнкі М.А. Плавінскага)*




*Мал. 2. Сякеры другой паловы XI-XIII стст. з Мінскага Замчышча (малюнкі М.А. Плавінскага)*




*Мал. 3. Сякеры другой паловы XI-XVIII стст. з Мінскага Замнышча: 1 - 50-70-я гг. XII ст. (№ 6), 2 - другая палова XII - пачатак XIII ст. (№ 9), 3 - конец XI - першая чвэрць XII ст. (№ 10), 4- XVIII ст., 5 - невядомага часу, 6 - XVII ст. (1 - паводле Э.М. Загарульскага, 2-3 - паводле Г.В. Штыхава, 4-5 - малюнкі М.А. Плавінскага, 6 - паводле Ю.А. Заяца)*




*Мал. 4. Храналогія сякер Мінскага Замчышча*




*Мал. 5. Тыпы сякер Мінскага Замчышча*




*Мал. 6. Касцяныя сякеры (1-2) і каменная сякерка-амулет (3) з Мінскага Замчышча (1 - паводле Г.В. Штыхава, 2-3 - малюнкі М.А. Плавінскага)*

*Дзяніс Дук*

# ПОЛАЦКАЯ КАСЦЯРЭЗНАЯ МАЙСТЭРНЯ XV - ПЕРШАЙ ПАЛОВЫ XVI СТ.

Археалагічныя раскопкі на тэрыторыі паўднёвага дворыка былога Кадэцкага корпуса (Езуіцкага калегіума/Акадэміі) у г. Полацку праводзіліся на працягу 2000-2003 гг. Усяго было зроблена 4 раскопы і 4 шурфы агульнай плошчай 270 кв. м. У раскопе 4 (80 кв.м) у 2003 г. былі выяўлены рэшткі касцярэзнай майстэрні. У артикуле ўпершыню публікуецца падрабязная характарыстыка рэштак пабудовы, рамеснага інструменту і побытавых рэчаў, касцяных вырабаў, нарыхтовак і адыходаў вытворчасці з касцярэзнай майстэрні.

Рэшткі касцярэзнай майстэрні былі даследаваны ў стратыграфічным пласце 3 разам з рэчамі, якія датуюцца ў дыяпазоне XIV-XVI стст. Гэты стратыграфічны пласт захаваў рухомыя артэфакты і фрагменты драўлянай забудовы сядзібы рамесніка-касцярэза. Ад будынкаў засталіся паўспарахнелыя кавалкі абпаленых плах, драўляныя насцілы з дошак і архітэктурна-дэкаратыўная кераміка каля іх (кавалкі глінянай абмазкі печы, кавалкі гаршковай кафлі і пліткі падлогі). Каля плах і драўляных насцілаў знойдзена вялікая колькасць металічных рэчаў - інвентар згарэўшых пабудоў, а таксама вырабы з косткі, нарыхтоўкі і абрэзкі косткі.

Большасць масавых і індывідуальных знаходак існавалі ў межах XV-XVI стст., а іх характар указвае на тое, што на месцы раскопа 4 размяшчалася адна ці некалькі пабудоў, якія загінулі ў агні. Непасрэдна каля плах адной пабудовы былі знойдзены навясны замок XIV-XV стст. (мал. 2:6), венцы гаршкоў XIV-XVI стст., Т-падобная будаўнічая скаба, цяслярскі нож (мал. 4:8). Знойдзены ключы ад навясных замкоў (мал. 3:6, 7). Ключы належаць да тыпу Е і па наўгародскай шкале датуюцца XIV-XVI стст. (Колчин, 1982, с. 162). Гэтая дата карэлюецца са стратыграфічнымі дадзенымі.

Размяшчэнне рэштак плах дазваляе акрэсліць адлегласць паміж сценамі адной з пабудоў - 2,3 м. Бліжэй да сярэдзіны пабудовы, амаль ушчыльную да паўднёвай сценкі, размяшчаўся апечак (развал спечанай гліны на плошчы квадрата 1,8х1,2 м, магутнасцю 0,3-0,4 м). На асобных кавалках гліны захаваліся адбіткі гаршковай кафлі.

Цікава адзначыць, што пад адной з плах (верагодна, ніжні вянок пабудовы), якую маркіраваў краевугольны камень, знойдзена манета - прускі грош Альберта II (1537 ці 1544 гг.) як магчымае сведчанне звычаю класці манету пад вугал дома.

Група рухомых артэфактаў прадстаўлена жалезнымі дэталямі дзвярнога набора, прыладамі працы і будаўнічымі матэрыяламі. Асартымент рэчаў з чор-ных металаў адной згарэўшай пабудовы (мяркуемай касцярэзнай майстэрні) прадстаўлены на мал. 1-2. У яго склад уваходзяць прабоі (мал. 1:1-2, 4, 12), будаўнічыя скобы (мал. 1:9-10, 14-17; 2:9), скабяныя вырабы (мал. 2:8, 12) і скобы з кольцамі (мал. 1:4-8), завескі ад аканіц (?) (мал. 1:11, 13), дзвярная клямка (мал. 1:3), цвікі (мал. 2:13-14). Асаблівую цікавасць прадстаўляюць дзве скабы з цалкам тардыраванымі стрыжнямі, што з'яўляецца познесярэднявечным храналагічным індыкатарам (Сагановіч, 2001, с. 263). Адна з іх магла выкарыстоўвацца як ручка дзвярэй (мал. 1:6). Да дзвярнога набора належыць таксама жалезнае кольца (мал. 2:5) і дзве дэталі ад навясных замкоў (мал. 2:3, 4). З рэдкіх знаходак вылучым кавалак свінцовай аправы ад шклянога акна (мал. 2:10). Аконнае шкло ў пабудовах

мяшчан з'яўляецца на працягу XVI ст., што характэрна як для насельніцтва ВКЛ, так і Польшчы (Яніцкая, 1977, с 6; Wyrobisz, 1968, s. 122). Аконнае шкло ў выглядзе шыбак невялікага фармату ўстаўлялася з двух бакоў аправы і спалучалася з яе дапамогай у цэлы аконны ліст (Wyrobisz, 1987, s. 59). Пры гэтым менавіта ў Полацку, у параўнанні з іншымі беларускімі гарадамі ВКЛ, дамы мяшчан аздабляліся шклянымі вокнамі ўжо у першай палове XVI ст. (Дук, 2004, с 18).

Прылады працы рамесніка-касцярэза прадстаўлены жалезным разцом (мал. 3:1), шыламі (мал. 3:2-3), чатырма нажамі (мал. 4:1-4), двума свердламі (мал. 4:5, 7), вырабам невядомага прызначэння (мал. 3:4).

Жалезны разец мае даўжыню 8,7 см, плоскі стрыжань шырынёй 0,6 см і таўшчыню 0,3 см (мал. 3:1). Адзін выраб (шыла?) мае плоскі стрыжань з завостраным канцом (мал. 3:2). У супрацьлеглай ад вострага стрыжня верхняй частцы зроблены кручок для магчымага падвешвання на вяровачцы. Шыла мае даўжыню 10,8 см, зроблена з квадратнага ў сячэнні стрыжня з круглай С-падобнай галоўкай для падвешвання на вяровачцы ці ланцужку (мал. 3:3). Шылы з квадратным сячэннем вастрыя па матэрыялах заслаўскай калекцыі бытавалі з XII да XVII стст. (Заяц, 1995, с. 60).

Выраб, які безумоўна з'яўляецца інструментам вытворчасці, мае крыху загнуты металічны стрыжань паўкруглага сячэння з завостраным канцом. Яго даўжыня 11,5 см, на стрыжні размешчаны тры вушкі, выраб мае круглую галоўку, у якую працягнута жалезнае кольца дыяметрам 1 см (мал. 3:5). Прызначэнне вырабу не вызначана.

Шыла з плоскім канцом (мал. 3:4) мае даўжыню 12,8 см і цэльнаметалічную рукаяць квадратнага сячэння 0,7x0,7 см. Гэты інструмент выкарыстоўвалі для пляцення. На плоскай (рабочай) частцы размешчаны дзве квадратныя адтуліны. Аналагічныя адтуліны прысутнічаюць на асобных плоскіх стрыжнях шылаў, знойдзеных у сярэднявечных гарадах Беларусі (Сагановіч, 2001, с 264, мал. 164:11).

Знойдзены чатыры чаранковыя нажы (мал. 4:1-4). 3 іх тры - цэлыя. Адзін мае сляды спрацаванасці рэжучай часткі (мал. 4:1). У яго масіўная спінка таўшчынёй 0,7 см, агульная даўжыня нажа 21 см, даўжыня чаранка 7,5 см. Чаранок прамавугольны ў сячэнні. Такую ж па таўшчыні спінку мае кавалак нажа, даўжыня чаранка яго роўная 6 см, лязо абламанае (мал. 4:3). Астатнія два нажы маюць спінку максімальнай таўшчынёй 0,5 см. Агульная даўжыня нажоў 18,2 см (мал. 4:2) і 16,5 см адпаведна (мал. 4:4). Такія нажы ў познім Сярэднявеччы на тэрыторыі Беларусі выкарыстоўваліся для разьбы па дрэву і костцы (Сагановіч, 2001, с. 263). Полацкія нажы характарызуюцца прамой спінкай і кароткім чаранком, па аналогі з матэрыяламі заслаўскай калекцыі гэтыя нажы тыпалагічна датуюцца XIII-XV стст. (Заяц, 1995, с. 50).

Цяслярскі нож з цэльнаметалічным дзяржаннем авальнага сячэння мае вушка-кольца на тарцы дзяржання (мал. 4:8). Даўжыня вырабу 16,2 см, таўшчыня спінкі ляза 0,35 см, даўжыня ляза 6,75 см.

З 3 свердлаў 2 з'яўляюцца абсалютна цэлымі. Адзін мае агульную даўжыню 10,8 см, зроблены з прамавугольнага ў сячэнні стрыжня з рабочым краем у выглядзе лопасцяў шырынёй 0,8 см (мал. 4:5). Другі свердзел мае агульную даўжыню 9,5 см з разцом даўжынёй 1,3 см. Стрыжань шасцігранны ў сячэнні (мал. 4:7). Асобна прадстаўлены абламаны канец масіўнага свердла шырынёй 2,4 см (мал. 4:6). Апошні свердзел прызначаўся для апрацоўкі дрэва.

Тыпалагічнае датаванне познесярэднявечных свердлаў не распрацавана, паколькі гэтыя вырабы ў археалагічных калекцыях даволі нешматлікія. Адзінай прыкметай для датавання з'яўляецца наяўнасць спіралі з вострай рэжучай гран-ню ў ніжняй частцы. Па колькасці абаротаў спіралі можна меркаваць пра больш

ранняе (XI-XV стст.) ці позняе (XVII-XVIII стст.) датаванне свердлаў (Сагановіч, 2001, с 263). Па гэтай прыкмеце (наяўнасць усяго толькі аднаго-двух абаротаў) знойдзеныя свердлы адносяцца да першай храналагічнай групы.

Разам з пазначанымі металічнымі рэчамі былі знойдзены два асялкі, якія маглі выкарыстоўвацца як лашчылы для паліравання косці. Асялкі маюць прамавугольную і трапецыяпадобную формы, даўжынёй 7,5 см, шырынёй 4 см і таўшчынёй 1 см, другі адпаведна 7,5x3,3x2 см. Асялкі зроблены з дробназярністага пясчаніку.

Масіўны разец, даўжынёй 29 см і дыяметрам рэжучай часткі 2,4 см, мае квадратны стрыжань сячэннем 1,5x1,5 см (мал. 3:8). Выкарыстоўваўся як калаўрот, пра што сведчыць папярочная адтуліна дыяметрам 1,3 см у верхняй частцы. Прызначаўся для апрацоўкі дрэва ў цяслярскай справе і належаў да комплексу рэчаў з пабудовы касцярэза. Падобны па памерах разец даўжынёй 39 см быў знойдзены ў Заслаўі (Заяц, 1995, рис. 33:1).

Адметнай з'яўляецца і значная колькасць знойдзеных касцяных артэфактаў, якія прадстаўляюць усе ступені вытворчасці: ад рэштак апрацаваных рагоў, касцей і рамеснага браку да нарыхтовак і гатовых вырабаў (мал. 5-7). Так, у стратыграфічным пласце 3 знойдзена 25 аснаванняў (разетак) масіўных рагоў, 86 касцяных нарыхтовак разам з рэшткамі апрацаваных рагоў і костак-адыходаў вытворчасці (мал. 5; 6:4-5). Дзве касцяныя накладкі з адтулінамі з'яўляюцца рамесным бракам. Вырабы прадстаўлены касцяным пярсцёнкам і шахматнай фігурай (ферзь) (мал. 7:9-10). Разам з гэтымі касцянымі вырабамі былі знойдзены згаданыя вышэй металічныя інструменты, кавалкі керамікі, пераважна гаршкоў (мал. 7:1-7).

З 86 рэштак апрацаваных рагоў і костак 3 - гэта аснаванні (разеткі) рагоў са слядамі рэзання і 83 нарыхтоўкі і абрэзкі з рагоў і костак, як правіла, тонкія касцяныя пласцінкі рознай формы (табл. 2). Да нарыхтовак належаць кавалкі адросткаў рагоў (мал. 5) са слядамі падрубкі, ламання, пілавання, рэзання і глянцавання (гл. табл. 2). Рамесны брак прадстаўлены накладкамі на дзяржанне нажа ці нейкую іншую прыладу (мал. 6:1-3). Усяго знойдзена 5 такіх накладак (вызначана сыравіна толькі двух - рогі аленя (cervus elaphus) і лася (alces alces)). Тры накладкі маюць некалькі адтулін дыяметрам 0,2-0,3 см для клёпкавага мацавання на металічнай аснове. Таўшчыня накладак каля 0,3 см. Калі дапусціць, што накладкі з'яўляліся часткай дзяржання нажа, а гэта вельмі верагодна, то час іх вытворчасці не выходзіў за храналагічныя межы ніжэй за XVI ст. (нажы з накладнымі тронкамі ці складовым дзяржаннем у XV ст. у Полацку не вядомы). Гэтая заўвага важная для датавання ўсяго комплексу.

Спосабам апрацоўкі паўфабрыкатаў і гатовых вырабаў з'яўляліся свідраванне, лашчэнне, тачэнне (накладкі, шахмата, кубік з косткі). Зрэдку сыравіна папярэдне адмочвалася.

Цэлыя касцяныя вырабы з'яўляюцца рарытэтнымі знаходкамі. Сярод іх неабходна вылучыць касцяную шахматную фігуру ферзя XV-XVI стст. з рога аленя (самка cervus elaphus, узрост больш 4 гадоў, перад вытворчасцю сыравіна была адмочана)[1] (мал. 7:9) і костка для гульні: кубік з рабром 1,2 см з нанесенымі цыркульным арнаментам вочкамі ад аднаго да шасці[2] (мал. 7:8).

Прыналежнасць шахматнай фігуры да прадукцыі даследаванай касцярэз-най майстэрні не выклікае сумненняў. Костка для гульні знойдзена ў познім стратыграфічным гарызонце 2, бліжэй да яго ніжняй мяжы, таму яе прыналежнасць да комплексу касцяных артэфактаў стратыграфічнага гарызонта 3 вельмі

[1] Вызначэнне А.А. Разлуцкай, за што прыношу ей вялікую падзяку.

[2] Па вызначэнні А.А. Разлуцкай, зроблены, верагодна, з косткі каня.

верагодная. Па гэтай прычыне стратыграфічнае датаванне выраба XVII ст., пазначанае намі ў ранейшых публікацыях (Дук, 2004а, с 302; 2004б, с. 48), нельга абсалютызаваць.

Кубік прыналежыць да так званых ігральных костак. Такія кубікі маглі пры-значацца для гульні ў шашкі, жараб'ёўцы перад гульнёй і шэрагу гульняў, дзе яны маглі паказваць чаргу і колькасць хадоў кожнага ўдзельніка гульні (Мядзведзева, 2006, с 136). На Беларусі касцяныя кубікі для гульні ў колькасці 8 адзінак знойдзе-ны ў пластах XII-XVII стст., большасць з іх датаваны XII-XIII стст. (Мядзведзева, 2006, с. 136-137).

Шахматная фігура вельмі добрай захаванасці. Адносіцца да т. зв. шахмат новай абстракцыі XVI-XVII стст. Вышыня шахматнай фігуры 4,5 см, дыяметр ас-новы (ніжняй часткі) 2,4 см пры вышыні 2,3 см. Цыліндрычная аснова перахоплена пасярэдзіне паяском. Вышэй асновы размешчаны два чашападобных яруса і кону-сападобная верхавіна. Дыяметр двух верхніх надстаў-ярусаў адпаведна 2 см і 1,5 см. Шахмата масіўная, шырокія чашы маюць зверху прарэхі (па чатыры на кожным ярусе). Аснова і ярусы ўпрыгожаны лінейным арнаментам (Мядзведзева, 2005, с. 48).

Касцяны пярсцёнак (захавалася *Vi* частка) быў знойдзены ў адным стратыграфічным пласце з касцянымі артэфактамі майстэрні. Пярсцёнак мае сля-ды працяглага нашэння ў выглядзе баразнаў і пацёртасцяў, якія ўтварыліся падчас работы з металічнымі прадметамі (напрыклад, дужкай вядра). Знешні дыяметр пярсцёнка каля 2 см, дыяметр адтуліны 1,5 см, таўшчыня 0,4 см, шырыня 0,9 см (мал. 7:10).

Сыравінай для вытворчасці касцяных вырабаў з'яўляўся астэалагічны матэ-рыял дзікай і хатняй жывёлы (табл. 2). Па вызначэнню А.А. Разлуцкай, усе 25 спілаў разетак рагоў належалі аленям (cervus elaphus). З 86 спілаў і нарыхтовак асноўная частка (83 адзінкі) была зроблена з рагоў, якія належылі дзікім жывёлам: 68 - але-ню, 14 - ласю (alces alces), 1 - лані (cervus dama). Апрацаваныя косткі хатняй жывёлы (усяго 3 адзінкі) належалі: 1 - буйной рагатай жывёле (BOS taurus), 1 - свінні (sus scrofa domestica), 1 - каню (equus caballus).

Датаванне комплексу артэфактаў з рога і косці, разам з рамеснымі інструментамі, укладаецца ў храналагічны дыяпазон XV-XVI стст. Найбольш верагодным часам існавання даследаванага комплексу касцярэзнай майстэрні з'яўляецца першая палова - сярэдзіна XVI ст. (да 1563 г.). Гэтае меркаванне грун-туецца на тым, што ў 1563 г. Полацк быў захоплены войскам Івана IV. У той час тэрыторыя Вялікага пасада была выпалена і не была заселена да 1579 г. Наяунасць у асартыменце касцяных вырабаў накладак на складовае дзяржанне нажа сведчыць пра з'яўленне новай канструкцыі нажоў з накладнымі тронкамі, раней XVI ст. такія нажы ў Полацку не вядомы. Тыпавая прыналежнасць знойдзенай шахматы, як, да-рэчы, і кубіка для гульні[3], таксама сведчыць на карысць пазначанага датавання. Не выключаецца, аднак, пачатак існавання касцярэзнай майстэрні ў XV ст.

Рамеснік-касцярэз жыў і працаваў у шчыльна заселенай усходняй част-цы Вялікага пасаду ў зрубным драўляным доме. Канструкцыйныя асаблівасці пабудоў сядзібы рамесніка можна рэканструяваць толькі прыкладна. Асноўнымі інструментамі рамесніка-касцярэза з'яўляліся металічныя свердлы, шылы, нажы і каменныя лашчылы. Нажы вылучаюцца разнастайнасцю форм і памераў.

[3] Верхняя мяжа існавання падобных кубікаў на Беларусі - XVI-XVII стст. (Мядзведзева, 2006, с. 136-137), пры гэтым вызначальным з'яўляецца менавіта XVI ст. Пазначанае ў артыкуле В.У Мядзведзевай (Мядзведзева, 2006, с. 137) стратыграфічнае датаванне полацкага артэфакта XVII ст. дазволіла інтэрпрэтаваць яго «самым познім па часе бытавання» сярод знойдзеных на тэрыторыі Беларусі.

Акрамя прылад для апрацоўкі косці рамеснік карыстаўся іншымі інструментамі, у прыватнасці, для апрацоўкі дрэва.

Спосабам вытворчасці касцяных нарыхтовак з'яўляліся падрубка, ла-манне, пілаванне, рэзанне і глянцаванне. Зрэдку сыравіна папярэдне адмочва-лася. Паўфабрыкаты і гатовыя вырабы апрацоўваліся свідраваннем, тачэннем і глянцаваннем.

Вынікі раскопак дазваляюць удакладніць датаванне шэрагу познесярэднявечных тыпаў інструментаў для апрацоўкі дрэва і косткі (свердлы, нажы і шылы). Стратыграфічнае датаванне абсалютнай большасці вырабаў з'яўляецца ў дадзеным выпадку надзейным храналагічным індыкатарам. Такім чынам, прадстаўлены археалагічны комплекс рэчаў з касцярэзнай майстэрні датуецца канцом XV - першай паловай XVI ст.

Даследаваная частка Вялікага пасаду здаўна з'яўлялася месцам пражывання рамеснікаў-касцярэзаў. У раскопе 2 (2002 г.) таксама былі выяўлены сляды касцярэзнай вытворчасці ў культурным пласце, які адпавядае стратыграфічнаму гарызонту 4 і датуецца XII—XIII стст. Абмежаваная плошча раскопа 2 (36 кв.м) дазволіла толькі засведчыць факт прысутнасці рэшткаў касцярэзнай вытворчасці. Раскоп 2 размяшчаўся па найменшай прамой на адлегласці 7,5 м ад раскопа 4 (сярэдняя адлегласць складае 10-15 м), што можа сведчыць аб пераемнасці рамеснай традыцыі ў розныя гістарычныя эпохі. Гэта, дарэчы, дастаткова тыпова для Полацка. Аналагічнае назіранне зроблена па выніках даследавання ювелірных майстэрняў на тэрыторыі Вялікага пасада ў раёне сучаснай плошчы Свабоды: тут рамеснікі-злотнікі традыцыйна сяліліся з XII па XVII стст. (Дук, 2006, с 15). Спадкаемства ў развіцці вытворчых традыцый з'яўляецца характэрнай рысай рамесніцтва Полацка часоў Сярэднявечча і Ранняга Новага часу.

### *Літаратура*

1. Дук, Д.У. Матэрыяльная культура насельніцтва Полацка XVI-XVIII стст. (па выніках археалагічнага вывучэння). Аўтарэферат дыс. ... кандыдата гіст. навук. Мн., 2004.

2. Дук, Д. Археалагічныя раскопкі і разведкі ў Полацку ў 2003 г. // ГАЗ. № 19. 2004а. С. 302-303.

3. Дук, Д.У. Побыт і матэрыяльная культура палачан XVI-XVIII стст. // БГЧ. № 5. 2004б. С. 48-55.

4. Дук, Д. Денежные истории восточных славян: Большой пожар за две копейки // Родина. № 4. 2006. С. 14-15.

5. Заяц, Ю.А. Заславль в эпоху феодализма. Мн., 1995.

6. **Колчин, Б.А.** Хронология новгородских древностей // Новгородский сборник. 50 лет раскопок Новгорода. М., 1982. С. 156-177.

7. **Мядзведзева, В.У.** Да пытання аб адной групе рагавых вырабаў // МАБ. Вып. 11.2006. С. 136-139.

8. Мядзведзева, В.У. Сярэдневяковыя шахматы Беларусі (гісторыка-археалагічнае даследаванне). Мн., 2005.

9. **Сагановіч,** Г.М. Прылады працы і побытавыя рэчы. Асартымент, тыпалогія, храналогія // Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 4. Помнікі XIV-XVIII стст. Мн., 2001. С. 260-276.

10. **Яніцкая, М.М.** Беларускае мастацкае шкло (16-18 ст.). Мн., 1977.

11. **Wyrobisz, A.** Szkło w Polsce od XIV do XVII w. Wrocław - Warszawa - Kraków, 1968.

12. **Wyrobisz, A.** Wytwórczość szklarska od połowy XIII do połowy XVII w. // Polskie szkło do połowy XIX w. Wrocław - Warszawa - Kraków - Gdańsk - Łódź, 1987. S. 48-62.

*Dzianis Duk* **Polatsk bone-carving workshop of the 15 - first half of the 16 centuries**

The article contains the results of archaeological study of a bone-carving workshop in Polatsk in 2003 (excavation area № 4). The workshop was located on the Great Pasad, which was he main dwelling place of mercants and craftsmen of the medieval city. Archaeological excavation in 2000-2003 helped to disclose that the western part of the Great Pasad (in the vicinity of the present-day Polatsk State University building, the former Jesuit college building) used to be the place of living of craftsmen specialising in bone-carving, from the 13th until the middle of the 16th century. There have been found 4 artifects made of bone, semifinished products, and remnats of bone-carving production, which belonged to the archaelogical complex of the workshop. Craftsman's tools and remains of a wooden structure containing everyday instruments have also been archaeologically studied. The bone-carving workshop dates back to the 15th - first half of the 16th centuries.

**Табпіца 1. Сумарная колькасць астэалагічнага матэрыялу паводле відавой прыналежнасці жывёл з касцярэзнай майстэрні (вызначэнне А.А. Разлуцкай)**

| **Разам** | 86 | **100%** |
|---|---|---|
| Алень | 68 | 79% |
| Лось | 14 | 16,20% |
| Лань | 1 | 1,10% |
| **Дзікія** | 83 | 96,50% |
| Свіння | 1 | 1,10% |
| Буйная рагатая жывёліна | 1 | 1,10% |
| Конь | 1 | 1,10% |
| **Хатнія** | 3 | 3,40% |

Табліца 2. Рэшткі апрацаваных рагоў і костак з касцярэзнай майстэрні (вызначэнне А.А. Разлуцкай)

| № пп | Палявы шыфр | К-ць | Від | Узрост | Пол | Бок | Часткі рога і косткі (апісанне фрагментаў, сляды работы) |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | 129/1 | 1 | Лань (даніэль) Cervus dama | Больш за 6–8 гадоў | Самец | Левы | **Лапата.** Фрагмент знешнята края, адпілаваны па доўгай восі рога |
| 2-3 | 558,578 | 2 | Алень Cervus elaphus | Дарослы | Самец | Левы | **Ствол.** Фрагмент, адсечаны, спілы на ўсю таўшчыню |
| 4 | 556 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Ствол.** Падпілены і зламаны |
| 5 | 1067 | 1 | -//- | 7–8 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Фрагмент падкароннага адростка, адбіты ад ствала, пагрызены мышамі |
| 6 | 1067 | 1 | -//- | 5–6 гадоў | | Правы | **Адростак.** Вочны, адпілены, шаг пілавання 1,7 мм |
| 7–14 | 129/2–8, 12 | 8 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Ствол.** Адпілы ўнутранай часткі ствала, порыстай. Таўшчыня фрагмента 1–11 мм |
| 15 | 129/10 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Ствол.** Адпіл кампактнага рэчыва |
| 16 | 129/8 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Адростак.** Адпіл кампактнага рэчыва рога |
| 17 | 129/11 | 1 | -//- | 5–7 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Падкаронны, распілаваны па таўшчыні |
| 18 | 129/3 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Ствол.** Пласціна са ствала 75×41×5мм, крок пілавання 4 мм. Пласціна з 2-х бакоў пакрыта вокіслам белага колеру |
| 19–60 | 566–11, 558–4, 578, 557, 598, 703, 581, 557, 878, 579, 703 і інш. | 42 | -//- | Дарослы | Мінімум 2 самцы | - | **Ствол.** Мінімум ад 3-х рагоў. Фрагменты ў асноўным унутранага губчатага слоя. 7 фрагментаў з рэшткамі знешнята слоя, № 556 – фрагмент ствала з парэзам тонкім лязом перпендыкулярна доўгай восі рога, глянцаваны. |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 61 | 134 | 1 | Алень Cervus elaphus, скінуты рог | Дарослы | Самец | - | **Разетка.** Фрагмент разеткі і аснавання ствала, памер 65×65×55 мм, ствол аддзелены паслядоўнымі падрубкамі па акружнасці |
| 62 | 114 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | Левы | **Разетка** і аснаванне ствала 77×69×63 мм, ствол і вочны адростак аддзелены падрэзкай па акружнасці |
| 63 | 134 | 1 | Алень Cervus elaphus | – | Самец | - | **Ствол.** Фрагмент ствала, сляды адпіла з крокам 1,5 мм, сляды зняцця гузаватага слоя з усёй паверхні, рогу нададзена канічная форма |
| 64 | 169, пл. 5 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Адростак.** Накладка |
| 65 | 1067 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Разетка.** Аснаванне ад лобнай косці адпілена на глыбіню 15мм і аддзелена падрубкамі, 85×62×46мм |
| 66 | 1067 | 1 | -//- | Старэйшы за 6 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Вочны адростак |
| 67 | 566, кв. 14, пл. 4 | 1 | -//- | 9–10 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Каронны адростак, вонкавы слой спілены, рогу нададзена пірамідальная форма, завостраныя канчаткі, крок пілаванння 3,5 мм |
| 68 | 1077 | 1 | -//- | Старэйшы за 6 гадоў | Самец | Левы | **Адростак.** Падкаронны, адпілаваны ад ствала, вонкавы слой месцамі зняты, шаг пілаванння 2,5 мм |
| 69 | 1067 | 1 | -//- | 9–10 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Каронны адростак, гузаваты слой падрэзаны |
| 70 | 118, кв. 6, пл. 4 | 1 | Лось Alces alces | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | Правы | **Адростак.** 2 заднія адросткі з фрагмента лапаты, адпілены |
| 71 | 316 кв. 5, пл. 8 | 1 | -//- | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | - | **Лапата.** Дзяржанне з лапаты, 2 штырка, 1 адтуліна |

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 72 | 1148 | 1 | -//- | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Задні адростак, падпілены і адламаны, спіл гузаватага слоя, канчатак адламаны, лёгкае гланцаванне, рог быў адмочаны |
| 73 | 1067 | 1 | -//- | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Задні верхні адростак, падпілены і адламаны, гланцаваны |
| 74 | 1067 | 1 | -//- | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Адростак лапаты, спіл да 1/2 таўшчыні, гузаваты. Слой спіральна зняты, канчатак абпалены |
| 75 | 878 | 1 | -//- | Старэйшы за 6 гадоў | Самец | - | **Лапата.** Фрагмент лапаты, таўшчыня 11 мм, адпіл з боку адросткаў, падрэзана і адламана з боку асновання рога |
| 76 | 962 | 1 | -//- | Старэйшы за 6 гадоў | Самец | - | **Лапата.** Фрагмент лапаты |
| 77 | 558 | 1 | -//- | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | - | **Адростак.** Фрагмент надпіла адростка |
| 78 | 566 | 1 | -//- | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | - | **Лапата.** Нарыхтоўка з лапаты, памер 70×20–45×2–9 мм |
| 79–82 | 566, 878 | 4 | -//- | Старэйшы за 5 гадоў | Самец | - | **Лапата.** Фрагменты лапаты |
| 83 | 558 | 1 | -//- | Дарослы | Самец | - | **Адростак.** Фрагмент кампактнага слоя адростка |
| 84 | 962 | 1 | Буйн. рог. жывёла Bos taurus | - | - | - | **Ствол.** Фрагмент высрастанай і расшчэпленай па таўшчыні рабрыны |
| 85 | 566 | 1 | Конь Equus caballus | - | - | - | **Ствол.** Фрагмент дыяфіза вялікай галёначнай косткі |
| 86 | 558 | 1 | Свіння хатн. Sus scrofa domestica | - | - | - | **Ствол.** Фрагмент плоскавай косткі. |




*Мал. 1. Метапічны інвентар, частка канструкцыі пабудоў*




*Мал. 2. Метапічны інвентар пабудоў*




*Мал. 3. Металічныя ключы і прылады працы рамесніка*




*Мал. 4. Металічныя прылады працы рамесніка*




*Мал. 5. Касцяныя нарыхтоўкі і рэшткі вытворчасці з касцярэзнай майстэрні*




Мал. 6. Паўфабрыкаты і нарыхтоўкі з косткі




*Мал. 7. Венцы гаршкоў (1-7) і касцяныя вырабы (8-10): 8 - кубік для гульні, 9 - шахматная фігура (ферзь), 10 - пярсцёнак (фрагмент)*

*Юры Бохан*

# НОВЫЯ ЗНАХОДКІ СЯРЭДНЯВЕЧНАЙ ЗБРОІ НА ТЭРЫТОРЫІ БЕЛАРУСІ

Летам 1994 г. у горадзе Мсціслаў Магілёўскай вобласці быў выяўлены шлем (мал. 1). Ён быў знойдзены выпадкова, падчас лоўлі рыбы мясцовым жыхаром у рацэ Віхра ў раёне Зарачанскага моста (Бохан, 1995, с. 5; 1996, с. 33-39; Bochan, 1997, с. 9-11). Зыходзячы з храналогіі бытавання падобных нагалоўяў і характару пашкоджанняў аўтар выказаў меркаванне, што салада магла трапіць на дно Віхры падчас баявых дзеянняў недзе ў канцы XV - пачатку XVI ст., калі ўсходнебеларускія землі з'яўляліся арэнай зацятага змагання паміж Вялікім княствам Літоўскім і Маскоўскай дзяржавай. Наибольшую ўвагу прыцягваюць падзеі 1502 г., калі адбыўся паход на Мсціслаў маскоўскіх ваявод на чале з князем С.І. Мажайскім.

Яшчэ раз звяртацца да абставін, пры якіх згаданая салада трапіла на дно Віхры, не было б патрэбы, калі б не знаходка ў 2004 г. у водах той самай ракі, зноў жа ў раёне Зарачанскага моста, другога нагалоўя, аднак т.зв. «рускага» тыпу. На сённяшні дзень яно знаходзіцца ў зборах Мсціслаўскага гісторыка-археалагічнага музея. У ліпені 2006 г. падчас лоўлі рыбы мясцовымі жыхарамі быў знойдзены трэці шлем, падобны на экземпляр 2004 г. Ён знаходзіўся на дне Віхры на глыбіні больш за 2 м за некалькі соцень метраў вышэй Зарачанскага мосту. Такім чынам, месца знаходкі гэтага нагалоўя сведчыць, што з найбольшай доляй верагоднасці ён быць мог згублены падчас экстранай пераправы праз раку ў неспрыяльным месцы, магчыма ў ходзе бітвы, фарсіравання ракі ці ўцёкаў.

Шлемы, знойдзеныя ў 2004 і 2006 гг. (будзем называць іх адпаведна № 2 і № 3, тады як знойдзеную ў 1994 г. саладу - № 1), належаць да адкрытых і складаюцца толькі са «звона» - часткі, што бараніла чарапную каробку. Падоб-ныя нагалоўі ў розных краях Усходняй і Цэнтральнай Еўропы былі вядомыя ў XIV-XVI стст. як «шаломы» (scholm, slomhuben і інш.) (Кирпичников, 1976, с. 29; Nowakowski, 1980, s. 45-46, 65-66; Nowakowski, 1990, s. 70). Яны практычна не папсаваны карозіяй, чаму, як падаецца, паспрыяла заглыбленне нагалоўяў у глеісты слой. Верхняя частка шлемаў аздоблена шматлікімі вертыкальнымі гранямі, у месцы перахода якіх у гладкую паверхню маецца больш ці менш заўважальны рабрысты пералом. Гэта надае сфераканічным, у прынцыпе, нагалоўям злёгку цыліндрычна-канічныя абрысы.

Шалом № 2 важыць каля 1,7 кг. Вышыня нагалоўя - каля 29,5 см, даўжыня - 23,5 см, шырыня - 22 см. Таўшчыня сценак каля злёгку адагнутых вонкі краёў вагаецца ад 1,2 да 2,2 мм. На адлегласці 9 см ад зрэза шалома пачынаюцца 10 вертыкальных граняў, якія даходзяць ажно да завяршэння шпіля. Завяршэнне аформлена ў выглядзе падоўжанага патаўшчэння, падкрэсленага чатырма абадкамі, якія аддзяляюць яго ад гранёнай часткі звона. Грані аформлены такім чынам, што спераду шлема пазначана як бы вертыкальнае рабро, характэрнае для іншай мадыфікацыі шаломаў - стажковых ці нармансkіх. Па краях звона маецца 23 адтуліны дыяметрам да 5 мм. Размешчаныя на даволі значнай адлегласці ад зрэзу нагалоўя, яны прызначаліся, верагодна, не для мацавання кальчужнай бармiцы, а для падшлемніка, які змякчаў удары зброі праціўніка. Разам з тым нельга выключыць і таго, што шлем прадугледжваў бармiцу, але яна мацавалася да яго пры дапамозе спецыяльных кольцаў вялікага дыяметра. Шлем выдатна захаваны, калі не лічыць дзвюх дзірак

на левым баку ў раёне рабрыстага пераломy, а таксама невялікіх вышчарбін па краі звона (мал. 2:1). Згаданыя пашкоджанні, як уяўляецца, сталі вынікам павольнай карозіі нагалоўя на дне ракі.

Шалом № 3 мае відавочнае падабенства з вышэй апісаным нагалоўем. Вышыня шлема складае каля 29 см, даўжыня - 24 см, шырыня - 21,5 см, вага - каля 1,7 кг. Краі звона, як і ў экземпляра № 2, злёгку адгінаюцца вонкі. Іх таўшчыня вагаецца ад 1,1 да 2 мм. Па акружнасці шлема ля краёў размяшчаюцца 34 адтуліны дыяметрам да 5 мм. Іх значная аддаленасць ад зрэза нагалоўя сведчыць, што яны, як і ў шлема № 2, прызначаліся для падшлемніка альбо для барміцы са спецыяльнымі мацавальнымі кольцамі вялікага дыяметра. На верхняй частцы звона маюцца вертыкальныя грані, іх колькасць раўняецца 12. Яны амаль нябачныя са знешняга боку, асабліва прымаючы пад увагу пакрыццё амаль усёй паверхні нагалоўя шэраватым глеістым накіпам. Аднак з унутранага боку гэтыя грані прасочваюцца вельмі выразна. Ніжняя лінія гранёнай часткі праходзіць ад краю звона на адлегласці 11-12 см. Шпіль шлема завяршаецца падоўжаным патаўшчэннем, абмежаваным знізу трайным абадком. На момант знаходкі шлема ў сярэдзіне яго знаходзілася скамечанае кальчужнае палатно, кольцы якога былі моцна склеены глеем (мал. 2:2). Гэта не дазваляе вызначыць функцыянальнае прызначэнне гэтага прадмета без яго ачысткі. Можна выказаць меркаванне, што ён з'яўляўся каптуром альбо барміцай. Дыяметр сплошчаных кольцаў гэтага вырабу складае каля 1 см, канцы мацуюцца «на шып», што было характэрна для кальчужных панцыраў позняга сярэднявечча (Гордеев, 1954, с. 79, 94).

Застаецца адкрытым пытанне аб прыналежнасці шлемаў да таго ці іншага з варагуючых бакоў. Калі шлем № 1 (салада) фактычна адназначна можа быць звязаны з прадстаўнікамі Вялікага княства Літоўскага, то са шлемамі 2 і 3 (шаломамі) справа выглядае болын складанай. Было б вельмі спакусліва патрактаваць іх як зброю вояроў Маскоўскай дзяржавы, правёўшы тым самым выразную мяжу паміж заходнім характарам узбраення ВКЛ і арыентальным - яго ўсходняга суседа. Аднак крыніцы сведчаць, што шаломы, у тым ліку і вырабленыя ў Маскоўскай дзяржаве, карысталіся ў Вялікім княстве Літоўскім у канцы XV - першай палове XVI ст. вялікай папулярнасцю (НАРБ, КМФ-5, воп. 1, № 2483, а. 10; НАРБ, КМФ-18, воп. 1, № 223, а. 161; Радзивиловская..., 1994).

Найбольш блізкія аналагі мсціслаўскім нагалоўям выяўлены ў межах былых уладанняў Тэўтонскага ордэна. Гэта шлем з Мельна (Альштынскае ваяводства), знойдзены на месцы бітвы 1410 г., і шлем з Выструця над Прэголай. Цікава, што вядомыя польскія даследчыкі М. Глосэк і А. Навакоўскі звязвалі шлемы з Мельна і Выструця, нетыповыя для заходнееўрапейскага ўзбраення, з прадстаўнікамі войска Вялікага княства Літоўскага, якія маглі згубіць іх пад час Грунвальдскай вы-правы (Głosek, Nowakowski, 1980, s. 58-60; Müller, Kunter, 1984, c. 156, 263, № 57). Расійскі даследчык К.А. Жукаў датуе шлем з Выструця (з-пад Чарняхоўска) першай чвэрцю XIV - пачаткам XV ст. і лічыць, што ён мог быць змадэляваны крыжацкімі майстрамі паводле рускіх узораў, куплены ці захоплены ў якасці трафея (Жуков, 2005, с. 24). Такім чынам, верагоднасць прыналежнасці знойдзеных у Мсціславе «рускіх» шаломаў да прадстаўнікоў войска ВКЛ таксама ўяўляецца даволі высокай, асабліва калі гаворка ідзе пра ўсходнія межы гэтай дзяржавы.

Разглядзеўшы верагоднасць аднвачасовага пападання на дно Віхры ўсіх трох шлемаў на пачатку XVI ст., неабходна спыніцца на больш ранніх падзеях, якія маглі прывесці да страты нагалоўяў 2 і 3. На гэтыя падзеі нашу ўвагу звярнуў былы дырэктар мсціслаўскага музея У.Л. Гасянкоў. Маецца на ўвазе аблога ў 1386 г. Мсціслаўскага замка смаленскім князем Святаславам і бітва на берагах Віхры яго

войска з падаспеўшымі сіламі Вялікага княства Літоўскага (ПСРЛ, Т. 32, с 145-146). Трэба сказаць, што пападанне нагалоўяў 2 і 3 на дно Віхры падчас падзей 1386 г. выглядае вельмі праўдападобным з пункту гледжання традыцыйнага датавання падобных нагалоўяў. Калі прыняць гэтую гіпотэзу, то каштоўнасць мсціслаўскіх шаломаў для даследавання ўзбраення Вялікага княства Літоўскага яшчэ больш узрастае, бо адразу ж пасля апісаных у Хроніцы Быхаўца падзей Смаленск трапіў у залежнасць ад ВКЛ і смаленскія ваяры сталі часткай узброеных сіл гэтай дзяржавы. Аднак на карысць больш позніх падзей сведчыць знаходка салады, аналагі якой, як ужо адзначалася, раней другой паловы XV ст. не ўжываліся, а пераканаўчых аргументаў, якія б адназначна ўказвалі на канец XIV ст., пакуль што не выяўлена. Гіпатэтычная ўвязка бліжэйшых аналагаў мсціслаўскіх шаломаў з грунвальдскай выправай выглядае не такой бездакорнай, як падаецца на першы погляд. Вядома, што вайсковыя кантынгенты ВКЛ удзельнічалі і ў пазнейшых выправах на прускія землі, у тым ліку і падчас вайны Полынчы з Тэўтонскім ордэнам 1520-1525 гг.

Інфармацыю пра яшчэ адно баявое нагалоўе ласкава прадставіў нам загадчык кафедры Магілёўскага універсітэта І.А. Марзалюк. Яно было выпадкова знойдзена ў Магілёве на тэрыторыі былога Пакроўскага пасада (Падміколле). Шлем знаходзіўся ў выдатным стане; прысутнічалі нават напалову сапрэлыя рэшткі падшлемніка (зараз не захаваліся). Нагалоўе мае характэрную канструкцыю - яно забяспечана высокім грэбнем і палямі, апушчанымі з бакоў і задзёртымі ўгару спераду і ззаду. Краі палёў завальцаваны ўсярэдзіну і ўпрыгожаны, таксама як і кромка грэбня, арнаментам у выглядзе вітага шнура. На ніжняй частцы звона, каля палёў размяшчаюцца заклёпкі для мацавання падшлемніка (мал. 3). Збоку, у месцы максімальнага апушчэння палёў маюцца адтуліны, прызначаныя, несумненна, для мацавання падбародачнага рэменя. Паводле характэрных асаблівасцяў магілёўскі шлем можа быць залічаны да марыёнаў, а дакладней - да т.зв. «чаўновых» марыёнаў. Яны былі пашыраны ў Еўропе ў кавалерыі і асабліва пяхоце ў XVI-XVII стст. У сваім класічным выглядзе марыёны сфармаваліся пасля 1550 г., праўдападобна ў Італіі. Бытавалі дзве асноўныя мадыфікацыі чаўновых марыёнаў - італьянская, для якой быў уласцівы празмерна высокі грэбень, а таксама нямецкая, больш нізкая і з меншым грэбнем. Усе тыпы марыёнаў забяспечваліся шчокамі ў выглядзе пласцінак, прыкляпаных да падбародачнага рэменя, адтуліны для мацавання якога, як адзначалася, маюцца на экземпляры з Мсціслава. У цэлым мсціслаўскі марыён належыць да нямецкай мадыфікацыі. У Еўропе класічныя марыёны ўжываліся недзе да 1620 г. (Блэр, 2006, с.152-153, 168). Бліжэйшыя аналагі марыёну з Магілёва датуюцца другой паловай XVI ст. (Kwaśniewicz, 1989, s. 151-152; Müller, Kunter, 1984, с. 171-175). Гіпатэтычна шлем мог належаць прадстаўніку найманай нямецкай пяхоты альбо пяхоты, арганізаванай на нямецкі манер, шырока ўжыванай з часоў Стэфана Баторыя.

Акрамя шлемаў увагу прыцягвае ўзор клінковай зброі, не апісаны раней у навуковай літаратуры. Так, у наша распараджэнне трапіла інфармацыя аб мячы з-пад Ліды (Гродзенская вобласць). Час і падрабязныя абставіны знаходкі мяча застаюцца невядомымі: інфармацыя аб ім была выпадкова знойдзена ў Інтэрнэце на адным са спецыялізаваных расійскіх сайтаў, дзе ён быў выстаўлены на продаж (http://ww2.ru/good.php?id=2425). Там паведамляецца толькі тое, што меч выяўлены падчас торфараспрацовак. На сайце былі таксама размешчаны выдатнай якасці здымкі (мал. 4) і прыведзены некаторыя параметры мяча. Агульная даўжыня зброі складае 115,5 см, рамбічнага ў сячэнні клінка, плаўна звужанага да штыха - 94 см. На супрацьлеглых баках клінка маюцца клеймы - «пасаўскі воўк» і ў выглядзе біскупскага посаха, трохі падобнага на літару Z. Паводле формы клінка і памераў рукаяці лідскі экземпляр можа быць залічаны да паўтаручных мячоў тыпу XVa

паводле класіфікацыі англійскага даследчыка Р.Э. Оўкшота (Głosek, 1984, s. 23-30). Рукаяць вянчае наверша, набліжанае да тыпу Н2, васьмівугольнае, блізкае да дыскападобнага, гладкае з аднаго боку і з абадком па краях - з другога (мал. 4:2). Канцы крыжавіны даўжынёй 20,7 см плаўна адгінаюцца ў супрацьлеглыя бакі перпендыкулярна плоскасці клінка, што надае крыжавіне S-падобную прафілёўку (тып 12). Акрамя апісанага экземпляра, мячы тыпу XVa выяўлены ў Старых Дарогах, каля Полацка і ў Цэханаўцы Бельскага павета (захоўваецца ў Гродзенскім дзяржаўным гісторыка-археалагічным музеі) (Кирпичников, 1966, с. 88-89; Бохан, 2003, с. 28-31; Muzeum..., s. 29-30). З найбольшай доляй верагоднасці лідскі меч можа быць датаваны сярэдзінай - другой паловай XV ст., хоць яго ўжыванне ў XVI ст. таксама не можа быць выключана.

### *Літаратура*


1. **Блэр,** К. Рыцарские доспехи Европы. Универсальный обзор музейных коллекций. Москва, 2006.
2. **Бохан, Ю.** Сярэднявечны гелм з Мсціслава // Наша Ніва. № 1. 1995. С. 5.
3. **Бохан, Ю.** Мсціслаўская салада і верагоднасць ужывання падобных шлемаў у Вялікім княстве Літоўскім // ГАЗ. № 8. 1996а. С. 33-39.
4. **Бохан, Ю.** Баявыя нагалоўі ў Вялікім княстве Літоўскім у другой палове XIV - канцы XVI стагоддзя // ГАЗ. № 10. 1996б. С. 89-111.
5. **Бохан,** Ю.М. Меч з Верхнядзвінскага раёна Віцебскай вобласці // БГЧ. № 2. 2003. С. 28-31.
6. **Гордеев, Н.В.** Русский оборонительный доспех // Государственная Оружейная палата Московского Кремля. Москва, 1954. С. 51-114.
7. **Жуков,** К.А. Русские сфероконические шлемы развитого средневековья // Воин. № 18. 2005. С. 19-27.
8. **Кирпичников, А.Н.** Древнерусское оружие. Вып. 1. Мечи и сабли IX—XIII вв. / САИ. Вып. Е1-36. М.-Л., 1966.
9. **Кирпичников, А.Н.** Военное дело на Руси в XIII-XV вв. Л., 1976.
10. **НАРБ,** КМФ-5, воп. 1, № 2483.
11. НАРБ.КМФ-18, воп. 1,№223.
12. **ПСРЛ,** Т. 6. Спб., 1853.
13. **ПСРЛ,** Т. 12. Спб., 1903.
14. **ПСРЛ,** Т. 13. Ч. 1. Спб., 1904.
15. **ПСРЛ,** Т. 32. М., 1975.
16. **Bokhan, J.** The sallet type helm from Mscislav // FAH. Fasc. X. Łódź, 1997. S. 9-11.
17. **Głosek, M., Nowakowski, A.** Średniowieczna przyłbica z Muzeum Okręgowe w Toruniu. Przyczynek do znajomości battyjskiego uzbrojenia ochronnego // KHKM. R. XXVIII. № 1. 1980.
18. **Głosek, M.** Miecze środkowoeuropejskie z X-XV w. Warszawa, 1984.

19. **Kwaśniewicz, W.** 1000 słów o broni białej i uzbrojeniu ochronnym. Warszawa, 1989.

20. **Museum w Grodnie.** Sprawozdanie z czynności za rok 1923. Grodno, 1924.

21. **Müller, H., Kunter, F.** Europäische helme aus der Sammlung des Museum für Deutsche Geschichte. Berlin, 1984.

22. **Nowakowski, A.** Uzbrojenie wojsk krzyżackich w Prusach w XIV i na początku XV w. Łódź, 1980.

23. **Nowakowski,** A. Uzbrojenie ochronne // Uzbrojenie w Polsce średniowiecznej 1350-1450. Łódź, 1990. S. 31-97.

24. http://ww2.ru/good.php?id=2425

*Jury Bokhan* **New Finds of Medieval Weapons from the Territory of Belarus**

The new medieval helmets and swords, which where found in Belarus in 2004 and 2006, are being researched. Two oriental-type conical helmets, terminating in a long point, where accidentally found in the Vikhra river near Mstsislau at the place of battle between the forces of Grand Duchy of Lithuania and Moscow state in 1502. The helmets where probably produced in the XV or at the end of the XIV century. The helmets could have been lost by warriors of both countries. The other high-combhelmet was accidentally found in Mahiliou. It is so-called Morion, which was very popular in Western and Central Europe in the XVI-XVII centuries. This helmet was probably produced in the second half of the XVI century. The two-handed sword of type XVa (after the typology of R.E. Oakeshott) was accidentally found near Lida.



*Мал. 2. Шлемы «рускага» тыпу, выяўленыя ў рацэ Віхра (у Мсціславе): 1 - 2004 г., 2 - 2006 г.*



*Мал. 3. Марыён, выяўлены ў Магілёве*







*Мал. 4. Меч, выяўлены каля горада Ліда*

## ВІНШАВАННІ

## ДАСЛЕДЧЫК ПАДЗВІННЯ (ДА ШАСЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ ВАДЗІМА ШАДЫРЫ)



Першага сакавіка 2007 года споўнілася 60 гадоў вядомаму беларускаму архео-лагу Вадзіму Іосіфавічу Шадыру. Вадзім Іосіфавіч нарадзіўся ў 1947 годзе ў гора-дзе Пячора Комі АССР у сям'і палітзняволенага (сумнавядомы артыкул 58), пека-ра па спецыяльнасці, і медыцынскай сястры. Бацька Вадзіма Іосіфавіча быў родам з Вілейшчыны. У 1930 годзе ён нелегальна перабраўся ў СССР, за што і атрымаў у трыццаць сёмым 10 год як «польскі шпіён». Да рэабілітацыі сям'я пражывала ў Літве (Пабрадэ, Швенчёніс, Ігналіна), дзе Вадзім Іосіфавіч атрымаў пачатковую адукацыю. Пасля рэабілітацыі (у 1958 годзе) бацькам дазволілі жыць на радзіме, і сям'я пераехала ў Маладзечна. Пасля заканчэння школы Вадзім Іосіфавіч працаваў некаторы час слесарам-зборшчыкам радыёапаратуры на заводзе «Спутник», а ў 1968 годзе ўладкаваўся ў Мінскі абласны краязнаўчы музей (у Маладзечне). Работу сумяшчаў з вучобай на гістарычным факультэце БДУ. У музеі працаваў разам з вя-домым краязнаўцам і выдатнай асобай - Г.А. Каханоўскім, які зрабіў значны ўплыў на светапогляд маладога чалавека як гісторыка. У музеі Вадзім Іосіфавіч займаўся зборам і вывучэннем матэрыялаў у асноўным дасавецкага перыяду гісторыі Міншчыны і ўдзельнічаў у пабудове экспазіцыі па адпаведнай тэматыцы.

З практычнай археалогіяй юбіляр упершыню пазнаёміўся ў 1968 г., калі прыехаў на раскопкі селішча Гарадзішча Мядзельскага раёна, якія праводзіў сла-вуты А.Р. Мітрафанаў. Постаць Мітрафанава, яго гутаркі аб археалогіі настолькі

ўразілі Вадзіма Іосіфавіча, што ён цвёрда вырашыў звязаць свой лес з гэтай навукай. Потым былі сумесныя раскопкі на гарадзішчы Малышкі Вілейскага раёна, якія праводзіў музей. Пасля заканчэння вучобы ў БДУ Вадзім Іосіфавіч служыў у войску ў Германіі пад Патсдамам. Пасля службы быў прыняты на працу ў Дзяржаўны музей БССР старшым навуковым супрацоўнікам. Тут ён займаўся зборам матэрыялаў і распрацоўкай тэматыка-экспазіцыйнага плана для будучай экспазіцыі па старажытных рамёствах у філіяле музея ў Заслаўі.

У 1974 годзе Вадзім Іосіфавіч быў запрошаны ў сектар археалогіі Інстытута гісторыі АН БССР для распрацоўкі тэмы «Археалагічныя помнікі жалезнага веку ў зоне затаплення Даўгаўпілскай ГЭС на тэрыторыі Беларусі» пад кіраўніцтвам свайго настаўніка і старшага сябра А.Р. Мітрафанава. Вось так юбіляр і звязаў свой навуковы шлях з Беларускім Падзвіннем. Спачатку ён праводзіў абследаванні і раскопкі помнікаў у басейне Заходняй Дзвіны ад По-лацка да беларуска-латышскай мяжы.

Першыя самастойныя раскопкі Вадзім Іосіфавіч правёў у 1975 годзе на адкрытым ім гарадзішчы Барсукі Верхнядзвінскага раёна ніжэй горада Дзісны (500 кв.м). Потым даследаваў гарадзішчы Замошша Полацкага раёна (550 кв.м), Цясты Верхнядзвінскага раёна (300 кв.м), адначасова праходзіў навучанне ў завочнай аспірантуры. У 1981 годзе Вадзім Іосіфавіч абараніў у Ленінградзе кандыдацкую дысертацыю па тэме «Племена днепро-двинской культуры Белорусского Подвинья (VIII-VII вв. до н.э. - IV в. н.э.)», у якой прапанаваў і абгрунтаваў гіпотэзу аб заходнім варыянце днепра-дзвінскай культуры на тэрыторыі Беларусі. Матэрыялы дысертацыі з улікам новых дадзеных былі змешчаны ў манаграфіі «Ранний железный век северной Белоруссии» (1985), а пазней у раздзеле «Днепра-дзвінская культура» фундаментальнай працы «Археалогія Беларусі. Т. 2. Жалезны век і ранняе сярэднявечча» (1999).

З 1980-х гадоў мінулага стагоддзя быў пашыраны храналагічны дыяпазон даследаванняў Вадзіма Іосіфавіча. Гэта перш за ўсё тычыцца шматгадовых раскопак гарадзішча і селішча Пруднікі Міёрскага раёна (1983-2000 гг., даследа-вана каля 2,5 тысяч кв.м); выяўлена каля тысячы індывідуальных знаходак і некалькі дзесяткаў тысяч адзінак масавага матэрыялу). Археалагічны комплекс Пруднікі з'яўляецца эталонным помнікам прыбалтыйскіх старажытнасцяў з аблітой і гладкасценнай керамікай 2-й паловы I тыс. н.э. на Беларусі. У гэтым жа рэгіёне Браслаўскага Паазер'я ён даследаваў селішча 3-й чвэрці I тыс. н.э. Тары-лава (250 кв.м) на беразе возера Укля, што дазволіла высветліць этнакультур-ныя ўзаемаадносіны насельніцтва гарадзішча і селішча. У Полацкім Падзвінні вывучаў гарадзішча-сховішча Свіла-1 Глыбоцкага раёна. Вадзім Іосіфавіч пачынаў раскопкі гэтага помніка ў 1974 годзе разам з А.Р. Мітрафанавым, а праз 15 гадоў ужо самастойна працягваў раскопкі. Матэрыялы даследаванняў далі магчымасць прасачыць працэс асіміляцыі носьбітаў банцараўскай культуры крывічамі. У Віцебскім Падзвінні юбіляр правёў раскопкі на гарадзішчах Буракова (120 кв.м) і Вышадкі (250 кв.м) Гарадоцкага раёна. У выніку былі атрыманы дадатковыя матэрыялы аб асаблівасцях днепра-дзвінскай культуры на фінальным этапе і працэсе фарміравання культурна-археалагічнай супольнасці тыпу Банцараўшчыны-Тушамлі. Каб прасачыць гістарычны лёс насельніцтва ў I тыс. н.э., Вадзім Іосіфавіч вывучаў курганныя пахаванні з трупаспаленнем (даследавана каля 100 насыпаў), галоўным чынам у заходнім рэгіёне Беларускага Падзвіння.

З 1999 года па сённяшні дзень Вадзім Іосіфавіч даследуе археалагічны комплекс на возеры Сялява Крупскага раёна (гарадзішча і селішча на выспе возера Сялява (даследавана звыш 500 кв.м.) і курганна-жальнічны могільнік Дакучын).

Помнікі размешчаны ў зоне сутыкнення розных археалагічных культур ад эпохі ранняга жалеза да сярэднявечча і даюць вельмі цікавыя матэрыялы, у тым ліку звязаныя з язычніцкімі рэлігійнымі вераваннямі.

У 2003 годзе Вадзім Іосіфавіч абараніў доктарскую дысертацыю па тэме «Беларускае Падзвінне ў эпоху жалеза і ранняга сярэднявечча» (не зацверджана ў ВАК). А ў 2006 годзе выйшла яго манаграфія «Беларускае Падзвінне (I тысячагоддзе н.э.)», дзе ўпершыню на шырокім археалагічным матэрыяле з выкарыстаннем дадзеных пісьмовых крыніц, лінгвістыкі і антрапалогіі дадзена рэканструкцыя гістарычнага развіцця Паўночнай Беларусі на працягу I тысячагоддзя н.э. У планах юбіляра выхад манаграфій па археалагічнаму комплексу Пруднікі, а таксама па рэгіёну возера Сялява.

Акрамя чыста навуковай дзейнасці Вадзім Іосіфавіч займаўся выкладаннем курса «Помнікі гісторыі і культуры Беларусі і іх ахова» у БДУ і БДПУ імя Танка, а таксама спецкурса «Археалагічныя матэрыялы ў музеі» (1995-2003 гады) у БДУ. У 1990-х гадах кіраваў археалагічнай практыкай студэнтаў-гісторыкаў БДПУ, Брэсцкага, Віцебскага, Гомельскага, Полацкага універсітэтаў.

Вынікі даследаванняў юбіляра адлюстраваны ў 31 навуковай справаздачы, а таксама ў разнастайных навуковых працах, спіс якіх складае звыш 150 назваў. Матэрыялы, атрыманыя падчас яго археалагічных раскопак, складаюць знач-ную частку збораў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусі, Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі, Віцебскага і Мінскага аблас-ных краязнаўчых музеяў, а таксама з'яўляюцца асновай збораў і экспазіцый шэ-рагу раённых музеяў (Міёрскага, Гарадоцкага, Верхнядзвінскага, Глыбоцкага, Браслаўскага, Касцюковіцкага). Жадаем юбіляру далейшых творчых поспехаў, здароўя і ажыццяўлення ўсяго задуманага.

*Ала Ільюцік*

## СПІС ПУБЛІКАЦЫЙ ВАДЗІМА ШАДЫРЫ

*Складзены Алай Ільюцік*

**1975**

Памятники Среднего Подвинья // АО 1974 года. М., 1975. С. 397-398.

**1976**

Исследование памятников раннего железа в Среднем Подвинье // АО 1975 года. М, 1976. С. 429-430.

**1977**

Изучение городища у дер. Барсуки // АО 1976 года. М, 1977. С. 419.

Изучение раннего железного века Белорусского Подвинья // Материалы научной конференции молодых историков Литвы и Белоруссии, посвященной 60-летию Великой Октябрьской социалистической революции (дек. 1977 г.). Вильнюс, 1977. С. 99-103.

**1978**

Исследования в Подвинье // АО 1977 года. М., 1978. С. 427-428.

**1979**

Археалогія, нумізматыка і геральдыка Беларусі: Энцыклапедычны даведнік. Мн., 1979. Са зместу: Барсукі (с. 32), Гвардзейская (с. 54), Загорцы (с. 82), Новы Болецк (с. 129), Панізава (с. 139), Пруднікі (с. 146), Замошша (с. 83-84).

Гарадзішчы ранняга жалезнага веку на поўначы Беларусі // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1979. № 5. С. 77-83.

Городище Замок у дер. Замошье // АО 1978 года. М., 1979. С. 448.

**1980**

Гарадзішча Замошша на Полаччыне // ПГКБ. 1980. № 2. С. 27-29.

Раскопки городищ Полотчины // АО 1979 года. М., 1980. С. 371.

**1981**

Древности балтов Белорусского Подвинья в раннем железном веке (VIII-VII вв. до н. э. - IV-V вв. н. э.) // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Тез. докл. Вильнюс, 1981. С. 59-62.

Племена днепро-двинской культуры Белорусского Подвинья (VIII—VII вв. до н. э. -IV в. н. э.): Автореф. дис... канд. ист. наук. Л., 1981. 20 с.

**1982**

Скотоводство и земледелие в раннем железном веке на севере Белоруссии // Древности Белоруссии и Литвы. Мн., 1982. С. 86-92.

**1983**

О железном веке северной Белоруссии // Древнерусское государство и славяне. Мн., 1983. С. 16-18.

Раскопки городищ на севере Белоруссии // АО 1981 года. М., 1983. С. 365.

**1985**

Древности балтов Белорусского Подвинья // Проблемы этногенеза и этнической истории балтов. Вильнюс, 1985. С. 112-123.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Віцебская вобласць. Мн., 1985. Са зместу: Барсукі, Вусце, Замошша *(сааўтар: Л.У. Дучыц),* Замошша-1, Майшулі *(сааўтар: Л. У. Дучыц),* Пруднікі *(сааўтар: А.Р. Мітрафанаў),* Чапаеўскае, Цясты.

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Гомельская вобласць. Мн., 1985. Са зместу: Багданавы (с. 218), Бярозаўка (с. 219), Васнясенск (с. 219), Вплынцы (с. 219-220), Ворнаўка (с. 220), Дубавіца (с. 220), Зяцькавічы (с. 222), Казімірава (с. 222), Кляшна (с. 222), Лебядзёўка (с. 222), Ліцвінавічы (с. 222), Луначарск (с. 223), Новы Млын (с. 223-224), Пакроўск (с. 224), Рудня (с. 224), Стараград (с. 224), Хізаў (с. 225), Хляўно (с. 225), Ванюжычы (с. 275), Капцэвічы (с. 278), Лучыцы (с. 280), Навасёлкі (с. 282), Фаставічы (с. 282), Хвойня (с. 283), Шаставічы (с. 283).

Исследования на берегах Западной Двины // АО 1983 года. М., 1985. С. 398-399. *Соавторы: В.П. Ксензов, Л.В. Дучиц.*

Новые памятники балтов на северо-западе Белоруссии // Проблемы этнической истории балтов: Тез. докл. межресп. науч. конф. Рига, 1985. С. 107-109.

Ранний железный век северной Белоруссии. Мн., 1985. 128 с: ил.

Раскопки городища Прудники // АО 1983 года. М., 1985. С. 414.

Раскопкі Марылінай гары // ПГКБ. 1985. № 3. С. 39-40.

Раскопки селища Прудники // АО 1984 года. М., 1986. С. 352.

**1986**

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Магілёўская вобласць. Мн., 1986. Са зместу: Арлы (с. 194), Асіповічы (с. 194), Воўкаўшчына (с. 194-195), Вярба (с. 195), Кароўшчына (с. 198), Касцюшкава (с. 198), Маслакі (с. 203), Навасёлкі (с. 203), Нікадзімава (с. 203-204), Паршына (с. 205), Сенькава (с. 206-207), Студзянец (с. 209).

Шпілька-амулет // Мастацтва Беларусі. Мн., 1986. № 4. С. 72.

**1987**

Древности второй половины I тысячелетия н. э. на северо-западе Белоруссии //Археология и история Пскова и Псковской земли. Псков, 1987. С. 56-58. *Соавтор: Л. В. Дучиц.*

Збор помнікаў гісторыі і культуры Беларусі. Мінская вобласць. Мн., 1987. Кн. 1. Са зместу: Загорцы (с. 21), Краснае (с. 23), Насілава (с. 28), Парадоўшчына (с. 29), Пятроўшчына (с. 30), Радашковічы (с. 32), Удранка (с. 37), Шыпулічы (с. 39).

К истории заселения западной части Полоцкого Подвинья в I тыс. н. э. // История и археология Полоцка и Полоцкой земли: Тез. докл. на юбилейных чтениях, посвящ. 1125-летию г. Полоцка, 28-30 сент. Полоцк, 1987. С. 77-78.

Раскопки селища в Витебской области // АО 1985 года. М., 1987. С. 473.

Пруднікі // Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі. У 5-ці т. Т. 4. Мн., 1987. С. 388-389.

**1988**

Земледельческое освоение севера Белоруссии в железном веке // Сельское хозяйство: история, современный опыт и перестройка: Тез. докл. конф., 27—29 окт. 1988 г., Гомель. Мн., 1988. С. 6-7.

Работы Западнодвинского отряда // АО 1986 года. М., 1988. С. 359-361. *Соавторы: Л.В. Дучиц, О.Е. Зайцева.*

Раскопки поселений близ д. Прудники // АО 1986 года. М., 1988. С. 384-385.

**1989**

К вопросу о неврах // Проблеми історіі та археолога давнього населения Украінськоі РСР: Тез. допов. XX Респ. конф., Одеса, жовт. 1989 р. Кйі'в, 1989. С. 254-255.

Памяти Алексея Григорьевича Митрофанова // СА. 1989. № 2. С. 296-297.

**1990**

Да гісторыі жывёлагадоўлі і палявання на паселішчах Пруднікі (III-XI стст. н.э.) // Весці АН БССР. Сер. грамад. навук. 1990. № 3. С. 68-74. *Сааўтары: В.В. Шчаглова, Г.В. Ласковы.*

Железный век северной Белоруссии в исследованиях А.Г. Митрофанова // Археология и история Пскова и Псковской земли (1989). Псков, 1990. С. 66-68.

**1991**

Изменение ландшафтов западнодвинского бассейна в связи с земледельческим освоением (прошлое и настоящее) // Человек, экология, симметрия: Материалы международ, симп., г. Минск, 9-11 окт. 1991 г. Мн., 1991. С. 131-133.

Этнічны склад насельніцтва паўночна-заходняй Беларусі ў І тыс. н.э. // Браслаўскія чытанні: Матэрыялы II навук.-краязн. канф., прысвечанай 925-годдзю Браслава (1065-1990), 16-17 лют. 1991 г. Браслаў, 1991. С. 24-26.

**1992**

Аб славянскім рассяленні на паўночным захадзе Беларусі // Весці АН Беларусі. Сер. грамад. навук. 1992. № 3-4. С. 73-79. *Сааўтар: Л. У. Дучыц.*

Железный век северной Белоруссии в исследованиях А.Г. Митрофанова // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза: Тэз. дакл. канф., прысвеч. 80-годдзю з дня нарадж. А.Р. Мітрафанава (10-12 снеж. 1992 г.). Мн., 1992. С. 13-16.

К истории населения северной Беларуси в I тыс. н.э. // Насельніцтва Беларусі і сумежных тэрыторый у эпоху жалеза: Тэз. дакл. конф., прысвеч. 80-годдзю з дня нарадж. А.Р. Мітрафанава (10-12 снеж. 1992 г.). Мн., 1992. С. 107-109.

О ранних длинных курганах северной Беларуси // Археология и история Пскова и Псковской земли: Материалы семинара. Псков, 1992. С. 48-50.

О финно-угорском субстрате на севере Белоруссии (гидронимия и археология) // Археология и история Пскова и Псковской земли: Материалы семинара. Псков, 1992. С. 60-63. *Соавтор: Р.Н.Овчинникова.*

Поселения балтов и изменение ландшафтов бассейна Западной Двины // Тезисы докладов конференции «Поселения Прибалтики с древнейших времен до XIV века». Вильнюс, 1992. С. 42-46.

Этнокультурная ситуация на белорусско-литовско-латышском порубежье в I тыс. н.э. // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Тэз. дакл. навук. канф., прысвеч. 1130-годдзю Полацка (верас. 1992 г.). Полацк, 1992. С. 64-65.

**1993**

Аб славянскім засяленні Беларускага Падзвіння ў 2-й пал. I тыс. // Матэрыялы Усебеларускай канферэнцыі гісторыкаў. Мн., 1993. Кн. 1. С. 367.

Археалагічная дзейнасць А. Ляўданскага на поўначы Беларусі і сучасныя даследаванні // Час, помнікі, людзі: памяці рэпрасаваных археолагаў: Тэз. дакл. Міжнар. канф., 27-30 кастр. 1993 г. Мн., 1993. С 134-136.

Археалогія і нумізматыка Беларусі: Энцыклапедыя. Мн., 1993. Са зместу: Абрамава (с. 22-23), Апрацоўка косці (с. 42, *сааўтар А.А. Трусаў),* Балты (с. 70-71), Барсукі (с. 76), Гарадзішча (с. 156), Гарадок (с. 162-163), Гвардзейская (с. 169), Днепра-дзвінская культура (с. 227), Замошша (с. 262), Кублічы (с. 353), Мазурына (с. 389), Паддубнікі (с. 479, *сааўтар: А.Р. Мітрафанаў),* Пруднікі (с. 517-518), Свіла-l (с. 558-559), Селішча (с. 561), Субаўшчына (с. 594, *сааўтар: Л.У. Дучыц, Э.М. Зайкоўскі),* Урагава (с. 627), Фіна-угры (с. 630), Цясты (с. 639).

Селішча Пруднікі на беларуска-латышскім парубежжы (матэрыяльная культура і датыроўка) // ГАЗ. 1993. № 2. С. 170-182.

Средневековые материалы из городища Прудники // Сярэдневяковыя старажытнасці Беларусі: Новыя матэрыялы і даследаванні. Мн., 1993. С. 138-146.

Фіна-угры, балты і славяне на поўначы Беларусі // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1993. № 3. С. 83-90.

Фіна-угры на поўначы Беларусі (гідранімія і археалогія) // Навуковая канферэнцыя «Віцебшчына старадаўняя і сучасная»: Тэз. дакл. Віцебск, 1993. С 7-9.

**1994**

Балты і славяне на Беларусі // Гісторыя Беларусі: Вучэбны дапаможнік для студэнтаў гістарычных факультэтаў. Мн., 1994. С 4-8. *Сааўтар: С.А. Адамовіч.*

Вялікае перасяленне народаў і паўночная Беларусь // Браслаўскія чытанні: Матэрыялы 3-й навук.-краязн. канф., прысвеч. 200 угодкам паўстання 1794 г., 21-22 крас. 1994 г. Браслаў, 1994. С. 61-63.

Даследаванні Заходнедзвінскага атрада на поўначы Беларусі ў 1987-1992 гг. // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1994. № 4. С. 108-109.

Находки монет из поселения Прудники // ГАЗ. 1994. № 5. С. 255-262. *Сааўтар: В.Н. Милютин.*

Працы на паўночна-ўсходняй ускраіне Беларусі // Весці АН Беларусі. Сер. гуманіт. навук. 1994. № 4. С. 108.

Средневековые наконечники стрел и арбалета из поселения у д. Прудники // ГАЗ. 1994. № 4. С. 217-224. *Сааўтар: Г.В. Ласковый.*

**1995**

Вялікае перасяленне народаў і этнакультурныя працэсы на поўначы Беларусі // Беларусістыка. Беларусь: гістарычны лес народа і культуры: Матэрыялы навук. сесіі 16-17 лістап. 1994 г. Мн., 1995. С. 65-69.

Вялікае перасяленне народаў і крывічы // ГАЗ. 1995. № 7. С. 202-212.

**1996**

Вялікае перасяленне народаў і этнакультурная сітуацыя на Падзвінні ў другой палове I тыс. н.э. // Полацк: карані нашага радавода. Полацкая зямля як сацыякультурная прастора ўзнікнення і развіцця беларускага этнасу і нацыянальнай дзяржаўнасці: Міжнар. навук. канф., 5-6 верас. 1995 г. Полацк, 1996. С.26-31.

Днепра-дзвінская супольнасць у I тыс. н. э. (сацыяльны аспект і этнакультурныя працэсы) // Беларусь у сістэме трансеўрапейскіх сувязяў у I тысячагоддзі н.э.: Тэз. дакл. і паведамл. міжнар. канф. (Мінск, 12-15 сак. 1996 г.). Мн., 1996. С 80-82.

Днепра-дзвінская культура // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6-ці т. Т. 3.Мн., 1996. С 260-261.

Этнокультурные и социальные процессы на севере Беларуси в раннем средневековье // Тэзісы дакладаў і паведамленняў беларускай дэлегацыі на VI Міжнарод. кангр. славянскай археалогіі, Ноўгарад, 26-31 жн. 1996 г. Мн., 1996. С 76-78.

**1997**

Вялікае перасяленне народаў і пачатак фарміравання беларускага народа // Гісторыя Беларусі: Жалезны век і сярэднявечча: Да 70-годдзя з дня нараджэння Г.В. Штыхава: Тэз. дакл. навук. канф. Мн., 1997. С. 69-71.

Жывёлагадоўля і паляванне ў жыцці насельніцтва Беларускага Падзвіння ў 2-й пал. I тыс. н.э. // ГАЗ. 1997. № 12. С. 241-246.

Збор і сістэматызацыя археалагічных матэрыялаў у жалезным веку // Музейны прадмет: тэорыя, метадалогія, практыка: Матэрыялы навук.-практыч. семінара (27-28 лістап. 1996 г.). Мн., 1997. С 39-40.

Сацыяльная структура насельніцтва Беларусі ў жалезным веку // Пытанні гісторыі і метадалогіі гістарычнай навукі. Мн., 1997. С. 25-29. *Сааўтар: С.А. Адамовіч.*

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6-ці т. Т. 4. Мн., 1997. Са зместу: Казінова (с. 10), Кублічы (с. 288), Лялеўшчына (с. 424).

Peoples Great migration and making of the Byelarussian etnicity // Third annual meeting of the European association of archaeologists: abstracts. Ravenna (Italy) 24—28 September 1997. Forli, 1997. P. 94.

Сацыяльная структура насельніцтва Беларусі ў жалезным веку // Пытанні гісторыі і метадалогіі гістарычнай навукі. Мн., 1997. С. 25-29.

**1998**

Аб паўднёвай мяжы днепра-дзвінскай культуры на Беларусі // ГАЗ. 1998. № 13. С. 88-97.

Археалагічныя раскопкі: камплектаванне фондаў музеяў і сістэматызацыя матэрыялаў // Музей на мяжы стагоддзяў: Традыцыйнае і новае ў канцэптуальных падыходах: Навуковыя канцэпцыі і праекты выстаў. Матэрыялы навук.-практ. канф.: 11-12 снеж. 1997 г. Мн., 1998. С 46-49.

Беларускае Падзвінне ў сярэднявеччы (сацыяльныя і этнакультурныя аспекты) // Гісторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы III Міжнар. навук. канф., 21-23 крас. 1997 г. Полацк, 1998. С. 316.

Вялікае перасяленне народаў і этнакультурныя працэсы на поўначы Беларусі // Гуманітарныя і сацыяльныя навукі на зыходзе XX стагоддзя. Мн., 1998. С. 375-378.

Да пытання аб ролі еўрапейскіх этнакультурных працэсаў 1 тыс. н.э. у этнагенезе беларусаў // Славяне и их соседи (археология, нумизматика и этнология). Мн., 1998. С. 86-90.

The role of migration in making of the Belarusian ethnicity // Forth annual meeting of the European association of archaeologists: abstracts. Göteborg, 1998. P. 106.

1999

Археалогія Беларусі. У 4 т. Т. 2. Жалезны век і ранняе еярэднявечча. Мн., 1999. Са зместу: Днепра-дзвінская культура, (с. 174-231); Банцараўская культура (с. 359-376, 410-419).

Пруднікі: старажытнае паселішча і вучэбна-археалагічная база // Гісторыя Беларусі: новае ў даследаванні і выкладанні: Матэрыялы Рэсп. навук.-практ канф., Мінск, 27 сак. 1999 г. Мн., 1999. Ч. 2. С 92-94.

Великое переселение народов и этнокультурные процессы в Белорусском Подвинье // Гісторыя Беларусі: новае ў даследаванні і выкладанні: Матэрыялы Рэсп. навук.-практ канф., Мінск, 27 сак. 1999 г. Мн., 1999. Ч. 2. С. 94-97. *Соавтор: С.А. Адамович.*

Зямля нашых продкаў // Памяць. Гіст.-дакум. хроніка Верхнядзвінскага раёна. Мн., 1999. С. 21-37.

Пруднікі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6-ці т. Т. 5. Мн., 1999. С. 575.

2000

Да гісторыі рыбалоўства на паселішчы Пруднікі (V-XII стст.) // ГАЗ. 2000. № 15. С. 53-55. *Сааўтар: Э.А. Ляшкевіч.*

Белорусско-литовско-латышское порубежье в эпоху железа и раннего средневековья (этнокультурные аспекты) // Iš baltų kultūros istorijos: Skiriama Adolfo Tautavičiaus 75-mečiui. Vilnius, 2000. P. 189-204.

Сацыяльныя адносіны і грамадскі лад у жалезным веку // Гісторыя Беларусь У 6 т. Т. 1. Старажытная Беларусь: Ад першапачатковага засялення да сярэдзшы XIII ст. Мн., 2000. С. 115-118.

«Из варяг в греки» - пути связей между северными и южными народами Европы (ретроспективные фрагменты) // Беларуска-грэчаскія ўзаемасувязі: ад

старажытнасці да сучаснасці: Матэрыялы Міжнар. навук. канф. (Мінск, 26 кастр. 2000 г.). Мн., 2000. С. 48-55.

Спрэчныя пытанні вывучэння перыяду 3-й чвэрці I тыс. н.э. у сярэдняй і паўночнай Беларусі // Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: стан і перспектывы развіцця: Матэрыялы навук. канф., прысвеч. 70-годдзю Ін-та гісторыі НАН Беларусі (6-7 кастр. 1999). Мн., 2000. С. 40-46.

**2001**

Белорусское Подвинье и Поднепровье: пути связей между народами (ретроспективный анализ) // Sanktuaria kult. Łódź., 2001. T. 5. S. 449-460.

Выяўленне, вывучэнне і ахова помнікаў жалезнага веку // Каштоўнасці мінуўшчыны. Мн., 2001. Вып. 4. С. 29-33.

Городище и селище Прудники // LA. 2001. № 21. P. 267-274.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6-ці т. Т. 6. Кн. 1. Мн., 2001. Са зместу: Селішча (с. 277), Свіла-l (с. 260-261), Урагава (с. 587).

**2002**

Банцараўская і тушамлінская культуры: агульнае і рознае (да пастаноўкі праблемы) // ГАЗ. 2002. № 17. С. 96-101.

Днепро-двинская культура в исследованиях Е.А. Шмидта // ГАЗ. 2002. № 17. С. 8-10.

К вопросу об этнониме «норова» // Славянский мир и славянские культуры в Европе и мире: Место и значимость в развитии цивилизации и культур (история, уроки, опыт, современность): Материалы Междунар. науч.-теоретич. конф., 31 окт. - 1 нояб. 2002 г. Ч. 2. Витебск, 2002. С. 171-173.

К вопросу о раннесредневековых этнонимах Белорусского Подвинья (археология, лингвистика, антропология) // Псторыя і археалогія Полацка і Полацкай зямлі: Матэрыялы IV міжнар. навук. канф. (23-24 кастр. 2002 г.). Полацк, 2002. С. 300-313. *Сааўтар: Л.У. Дучыц.*

Уздзеянне чалавека на навакольнае асяроддзе ў эпохужалеза (па археалагічных матэрыялах паўночнай Беларусі) // Айчынная і сусветная псторыя: сучасныя погляды і метады даследавання: 36. навук. пр. Ч. 1. Актуальныя пытанні гісторыі Беларусі. Мн., 2002. С. 3-7. *Сааўтар: С.А. Адамовіч.*

**2003**

Беларускае Падзвінне ў эпоху жалеза і ранняга сярэднявечча (VIII ст. да н.э. - VIII ст. н.э.): Аўтарэф. дыс. ... д-ра гіст. навук / НАН Беларусі. Ін-т гісторыі. Мн, 2003.-40 с

Вывучэнне жалезнага веку паўночнай Беларусі ў другой палове XX ст. (гістарыяграфічны агляд) // Сучасныя праблемы гістарыяграфіі і гісторыі Беларусі: Матэрыялы рэсп. нав.-практ. канф. (28 лістап. 2003 г.). Мн., 2003. С. 11-15. *Сааўтар: С.А. Адамовіч.*

Гарадзішча на выспе воз. Селява // «Малое Палессе»: Краязнаўчы альманах. Мн., 2003. Вып. 1.С. 12-21.

Да гісторыі насельніцтва Беларускага Падзвіння ў раннім сярэднявеччы // История и культура Европы в контексте становления и развития региональных цивилизаций и культур: Актуальные проблемы из исторического прошлого и современности: Материалы Международ, научн.-теоретич. конф., Витебск, 30-31 окт. 2003 г. Витебск, 2003. С, 87-89.

Жалезны век на тэрыторыі Беларусі (VIII—VII ст. н.э.): Вучэбна-наглядны дапаможнік для агульнаадукацыйных устаноў. Мн., 2003.

Спрэчныя пытанні вывучэння перыяду 3-й чвэрці I тыс. н.э. у еярэдняй і паўночнай Беларусі // Гістарыяграфія гісторыі Беларусі: стан і перспективы развіцця: Матэрыялы навук. канф., прысвеч. 70-годзю Ін-та гісторыі НАН Бсларусі (Мінск, 6-7 кастр., 1999). Мн., 2003. С. 40-46.

Селішча Тарылава на Уклі (да пытання аб распаўсюджанні аблітой керамікі на паўночным захадзе Беларусі) // Браслаўскія чытанні: Матэрыялы VI навук.-краязн. канф., прысвеч. 150 гадавіне з дня нараджэння браслаўскага лекара, грамадскага дзеяча Станіслава Нарбута (1853-1926), 7-8 мая 2003 г. Браслаў, 2003. С. 103-105.

Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. У 6-ці т. Т. 6. Кн. 2. Мн., 2003. Са зместу: Фіна-угры (с. 41), Шмідт Я.А. (с. 224), Шут К.П. (с. 236), Перхаўка К.П. (с. 242-243).

**2004**

А.Р. Мітрафанаў - вучоны, настаўнік, чалавек // ГАЗ. 2004. № 19. С. 5-7.

Жалезны век // Беларуская энцыклапедыя: У 18 т. Т. 18. Кн. 2. Мн., 2004. С. 146-148.

Гарадзішча Клішына («Выспянская Гара») Крупскага раёна (раскопкі 1999-2002 гг.) // ГАЗ. 2004. № 19. С. 115-126.

Городище Клишино в междуречье Западной Двины и Днепра // Археология и история Пскова и Псковской земли: Материалы 50 науч. семинара. Псков, 2004. С. 366-378. *Соавтор: Л.Е. Матвеева.*

Да пытання аб сацыяльнай структуры і вераваннях насельніцтва Паўночнай Беларусі ў раннім сярэднявеччы // Восточная Европа в древности и средневековье. Мн., 2004. С. 78-87.

Жизнь и судьба в науке // ГАЗ. 2004. № 19. С. 7-11. *Сааўтар: А.А. Разлуцкая.*

Раскопкі курганоў ва ўрочышчы «Рацкі Бор» каля г. Браслава Віцебскай вобласці // ГАЗ. 2004. № 19. С. 143-147. *Сааўтар: Л.У. Дучыц.*

Новыя дадзеныя з раскопак гарадзішча Клішына Крупскага раёна // ГАЗ. 2004. № 19. С. 290-292.

Паляванне ў плямёнаў Беларускага Падзвіння ў эпоху жалезнага веку і ранняга сярэднявечча // Айчынная і сусветная псторыя: сучасныя погляды і метады даследавання: 36. навук. арт. Мн., 2004. С. 3-8. *Сааўтар: С.А. Адсаювіч.*

Osadnictwo baltyjskie i zmiany krajobrazu dorzecza Zahodniej Dźwiny i Górnego Podnieprza w wczesnej epoce żelaza // Pruthenia Antiqua. Olsztyn, 2004. Vol. LS. 195-199.

**2005**

Железный век // Республика Беларусь: Энциклопедия. В 6 т. Т. 1. Мн., 2005. С. 192-194.

Гарадзішча Вышадкі // ГАЗ. 2005. № 20. С. 73-81.

Тыпалогія касцяных наканечнікаў стрэл з гарадзішчаў Беларускага Падзвіння // ГАЗ. 2005. № 20. С. 62-64. *Сааўтар: СВ. Шаволін.*

Раскопкі гарадзішча «Выспянская Гара» на воз. Селява Крупскага раёна // ГАЗ. 2005. № 20. С. 230-231.

Праблема славянскага засялення беларуска-расійскага рэгіёна басейна Заходняй Дзвіны ў эпоху ранняга сярэднявечча. Мн., 2005. Са зместу: Уводзіны (с. 3), Характарыстыкатэрыторыі даследавання і гістарыяграфічны агляд праблемы (с. 5-8), Даследаванне даславянскіх помнікаў Сярэдняга Падзвіння (с. 8-15), Беларускае Падзвінне ў эпоху Вялікага перасялення народаў (с. 15-35), Пачатак фарміравання смаленска-полацкіх крывічоў (с. 35-36), Заключэнне (с. 43), Літаратура (с. 44-49).

**2006**

Археалагічныя росшукі А.Зм. Кавалені ў басейне Заходняй Дзвіны і сучасны стан даследаванняў//ГАЗ. 2006. №21. С. 11-12.

Археалагічныя даследаванні ў ваколіцах возера Селява Крупскага раёна // ГАЗ. 2006. № 21. С. 197-198. *Сааутар: П.М. Кенька.*

Беларускае Падзвінне (I тысячагоддзе н. э.). Мн., 2006. 150 с: іл.

Таямніцы возера Селява // БГЧ. 2006. № 2. С 42-46.

Byelorussian territory in the Migration Period // 12 th Annual Meeting of European Association of Archaeologists: Abstracts Book, Cracow, Poland, 19-24 September 2006. Craców: 2006. P. 343.

Балто-славянские этногруппировки на территории Белорусского Подвинья во второй половине I тысячелетия н.э. (лингво-археологический аспект) // Acta Baltico-Slavica. Vol. 30. Warszawa, 2006.

## *СПІС СКАРАЧЭННЯЎ*

АА ІГ НАНБ - Археалагічны архіў Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Мн.
АО - Археологические открытия. М.
БГЧ - Беларускі гістарычны часопіс. Мн.
БДПУ - Беларускі дзяржаўны педагагічны універсітэт імя М. Танка. Мн.
БДУ - Беларускі дзяржаўны універсітэт. Мн.
ВАК - Вышэйшая атэстацыйная камісія
ВОКМ - Витебский областной краеведческий музей
ГАЗ - Гістарычна-археалагічны зборнік. Мн.
ГИМ - Государственный Исторический музей. М.
ИИМК - Институт истории материальной культуры РАН. СПб.
ИИ НАН Беларуси - Институт истории Национальной академии наук Беларуси. Мн. КСДК - культура смаленска-полацкіх доўгіх курганоў КСПДК - культура смаленска-полацкіх доўгіх курганоў МАБ - Матэрыялы па археалогіі Беларусі. Мн. МИА - Материалы и исследования по археологии СССР НАРБ - Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь. Мн. НМГ І КБ - Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі. Мн. НМИ И КБ - Национальный музей истории и культуры Беларуси. Мн. ПГКБ - Помнікі гісторыі і культуры Беларусі. Мн. ПСРЛ - Полное собрание русских летописей РАН - Российская Академия наук РГНФ - Российский гуманитарный научный фонд СА - Советская археология. М. САИ - Свод археологических источников FAH - Fasciculi archaeoloiae historicae. Łódź KHKM - Kwartalnik historii Kultury Materialnej. Warszawa LA - Lietuvos archeologija. Vilnius.

*ЗВЕСТКІ АБ АЎТАРАХ*

**Бохан Юрый Мікалаевіч** - доктар гістарычных навук, загадчык кафедры эканамічнай гісторыі Беларускага дзяржаўнага эканамічнага універсітэта. Мінск, Партызанскі праспект, 26. E-mail: *history_bokhan@tut.by.*

**Бубенька Таццяна Станіславаўна** - кандыдат гістарычных навук, дацэнт, дэкан факультэта давузаўскай падрыхтоўкі Віцебскага дзяржаўнага універсітэта імя П.М. Машэрава. 210045, Віцебск, вул. Чкалава, 54-1.

**Дук Дзяніс Уладзіміравіч** - кандыдат гістарычных навук, загадчык кафедры айчыннай і ўсеагульнай гісторыі Полацкага дзяржаўнага універсітэта. 211440, Наваполацк, вул. П. Блахіна, 29. E-mail: *denis_duk@tut.by.*

**Ерамееў Іван Ігаравіч** - кандыдат гістарычных навук, малодшы навуковы супрацоўнік аддзела славяна-фінскай археалогіі Інстытута гісторыі матэрыяльнай культуры Расійскай Акадэміі навук. 190068, Санкт-Пецярбург, Фантанка, 127, 5. E-mail: *ivan_eremeev@pochtamt.ru.*

**Ільюцік Ала Уладзіміраўна** - навуковы супрацоўнік аддзела археалогіі першабытнага грамадства Інстытута гісторыі НАН Беларусі. 220072, Мінск, вул. Акадэмічная, **1.**

**Плавінскі Мікалай Аляксандравіч** - вядучы навуковы супрацоўнік навукова-фондавага аддзела рэчавых помнікаў Нацыянальнага музея гісторыі і культуры Беларусь 220050, Мінск, вул. К. Маркса, 12. E-mail: *plavinsky_arc@mail.ru.*

**Штыхаў Георгій Васільевіч** - доктар гістарычных навук, галоўны навуковы. супрацоўнік аддзела археалогіі сярэдневяковага перыяду Інстытута гісторыі НАН Беларусь 220072, Мінск, вул. Акадэмічная, 1.

Навуковае выданне

# Acta archaeologica Albaruthenica Vol. II (Вып. 2)

на беларускай і рускай мовах

**Укладальнікі:**

М.А. Плавінскі, В.М. Сідаровіч

Навуковы рэдактар: Г.В. Штыхаў

Карэктар: В. Трэнас Камп'ютарная

вёрстка: В.І. Ходан

Падпкана да друку 02.10.2007 г. Фармат 70x100 1/16
Папера афсетная. Друк афсетны. Гарнітура Minion.
Ум. друк. арк. 10,34. Ул. выд. арк. 10,3. Наклад 200 асобнікаў. Замова 1083.

Выдавец **І.П. Логвінаў**
ЛИ № 02330/013307 ад 30.04.2004 г. 220050,
г. Мінск, пр-т. Незалежнасці, 19-5
logvinovpress@mail.ru

Друк **ТДА «НоваПрынт»**
ЛП 02330/0056647 ад 27.03.2004 г.
220047, г. Мінск, вул. Купрэвіча, 2